
На граніцы ➔ 3

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960

NR INDEKSU 366714


Алея дрэў ➔ 4

http://niva.bialystok.pl

redakcja@niva.bialystok.pl

№ 46 (3365) Год LXV | Беласток, 15 лістапада 2020 г. | Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)


# Шпіталі запаўняюцца, а хворых усё большае і большае



**Даныя хутка мяняюцца, але калі ў пачатку лістапада пачынаю пісаць гэты артыкул, па ўсёй Польшчы запаўняюцца ковідныя шпіталі і паасобныя аддзяленні ў іншых шпіталях, адведзеныя толькі для хворых заражаных каранавірусам. Там лекары і медсёстры вельмі ахвярна змагаюцца за здароўе і жыццё пацыентаў. Лік заражаных каранавірусам у Падляшскім ваяводстве, у тым ліку на Гайнаўшчыне і Бельшчыне ўсё большае і большае.**

Аб поўным спыненні дзейнасці ўсіх школ да 29 лістапада абвясціў 4 лістапада прэм'ер-міністр Матэвуш Маравецкі і паінфармаваў аб іншых абмежаваннях у галіне культуры, гандлю, транспарту і іншых сферах грамадскага жыцця. Прэм'ер Матэвуш Маравецкі 5 лістапада на Нацыянальным стадыёне ў Варшаве, які пераўтвараецца ў вялікі дадатковы шпіталь для ковідных хворых, сказаў, што калі будзе неабходнасць, за 7-14 дзён, будзе ўведзены ў Польшчы нацыянальны каранцін. Такі каранцін уведзены ўжо ў некаторых краінах Еўропы і там абмежаванні намнога большыя, чым цяперашнія ў нашай краіне. У некаторых дзяржавах з дому, па-за выездам на працу, можна выходзіць толькі пры вялікай неабходнасці — дзеля куплі харчавання, лякарстваў, на шпацыр непадалёк ад месца пражывання або ў іншых неадкладных справах. Прэм'ер дабавіў, што ёсць спадзяванне гэтага пазбегнуць. Аднак у Польшчы толькі 5 лістапада было пацверджаных ажно звыш 27 тысяч хворых з наяўнасцю каранавіруса, а ў іх ліку 55 чалавек складалі жыхары Бельска-Падляшскага, а 50 — асобы з Гайнаўскага павета.

У другой палове кастрычніка намеснік дырэктара Самастойнага публічнага Прадпрыемства аховы здароўя ў Гайнаўцы Тамаш Мусюк паведаміў, што ў шпіталі, калі хворымі на каранавірус запоўніліся два аддзяленні — інфекцыйнае і лячэння лёгкіх, хворыя прымаліся на лячэнне на трэцяе шпітальнае аддзяленне. Тады некалькі лекараў і медсёстры з розных аддзяленняў былі заражаны каранавірусам, а асобы з гайнаўскага шпіталя, якія былі ў кантакце з імі, мусілі падацца ў ізаляцыю, каб можна было абмежаваць распаўсюджанне каранавіруса сярод шпітальнага персаналу. Многія маладыя асобы нават не ведаюць аб наяўнасці каранавіруса ў сябе, паколькі ў іх няма сімптомаў гэтай хваробы. Вялікая частка дарослых асоб змагаюцца з адмоўнымі паслядоўнасцямі заражэння каранавірусам дома і хаця паяўляюцца складанасці ў час хваробы, то, карыстаючыся тэлефоннымі парадамі лекараў і прыпісанымі імі лякарствамі, выздараўліваюць. Іншыя хворыя патрабуюць неадкладнай медыцынскай дапамогі ў шпіталях і лечацца там тыднямі і месяцамі. Раней гаварылася, што ўміраюць у галоўным найстарэйшыя асобы з дадатковымі хваробамі, якім асабліва складана змагацца з каранавірусам. Зараз штораз часцей паяўляюцца інфармацыі аб смерці маладых асоб, у якіх лекары не знайшлі іншых захворванняў апрача наяўнасці каранавіруса і выкліканых ім складанасцей.

Самастойнае публічнае Прадпрыемства аховы здароўя ў Бельску-Падляшскім рашэннем падляшскага ваяводы Багдана Пашкоўскага было пераўтворана ў шпіталь толькі для лячэння хворых заражаных каранавірусам, у які сталі прымацца таксама хворыя з падазрэннем гэтага захворвання і пабываць там да часу атрымання выніку тэсту.

— Абставіны ў нашым шпіталі вельмі цяжкія. Хворых становіцца ўсё больш, а працаўнікоў не хапае, каб імі займацца. У нашым шпіталі працуе толькі трох лекараў інфекцыйнага аддзялення, спецыялістаў па лячэнні хворых заражаных каранавірусам. Колькасць іншых лекараў і іншых працаўнікоў таксама недастатковая. У шпіталі выдзелены сем месцаў для інтэнсіўнай тэрапіі цяжка хворых. Зараз, нягледзячы на ліміт сямі месцаў, адзінаццаць асоб патрабуюць інтэнсіўнай тэрапіі і падключаны яны да рэспіратараў, — паінфармавала намеснік дырэктара Самастойнага публічнага Прадпрыемства аховы здароўя ў Бельску-Падляшскім Патрыцыя Сарнацкая.

1 лістапада паведамлялася аб 57 новазаражаных каранавірусам у Бельскім павеце, з ліку якіх восем чалавек трапіла на лячэнне ў шпіталь і пра 42 новазаражаных у Гайнаўскім павеце, з якіх 5 асоб былі прыняты на лячэнне ў шпіталь. Амаль кожнага наступнага дня тэстамі пацвярджалася па некалькі дзясяткаў асоб заражаных каранавірусам у Бельскім і Гайнаўскім паветах. Паводле часткі экспертаў, каб атрымаць праўдзівы лік хворых заражаных каранавірусам, трэба афіцыйны лік хворых памножыць нават на пяць. Мяркуецца, што ў каля 80% хворых заражаных каранавірусам амаль няма або выступаюць слабыя сімптомы гэтай хваробы і таму яны наогул не ідуць правярацца наконт заражэння каранавірусам. Прадугледжваецца, што такіх асоб многа сярод вучняў і таму, пачаўшы з пачатку верасня, калі пачаўся новы школьны год, каранавірус стаў хутка пашырацца ў Польшчы і іншых еўрапейскіх краінах.

— Зараз усе аддзяленні нашага шпіталя працуюць бесперапынна, у тым ліку і шпітальнае выратавальнае аддзяленне. Цяпер у наш шпіталь прымаюцца пацыенты з Гайнаўскага і Бельскага паветаў, а таксама з Сямятыцкага павета, паколькі там не працуе частка шпітальных аддзяленняў. Здараюцца новыя выпадкі заражэння каранавірусам нашых працаўнікоў і гэта абмяжоўвае нашу дзейнасць, — заявіў у канцы кастрычніка намеснік дырэктара Самастойнага публічнага Прадпрыемства аховы здароўя ў Гайнаўцы Тамаш Мусюк.

Калі ў пачатку лістапада глянуў я на карту распаўсюджання каранавіруса, Гайнаўскі павет быў пямечаны найбольш інтэнсіўным колерам, што сведчыла аб самым хуткім пашырэнні тут каранавіруса сярод усіх паветаў Падляшскага ваяводства ў апошніх двух тыднях у пераліку на 10 тысяч жыхароў. Толькі крыху павальнейшае было распаўсюджанне каранавіруса ў Бельскім павеце. Найбольш выпадкаў хворых у Гайнаўскім і Бельскім паветах, у якіх пацверджана была наяўнасць каранавіруса, гэта жыхары Гайнаўкі і Бельска-Падляшскага. Аднак штораз больш асоб заражаных каранавірусам гэта жыхары вёсак у згаданых паветах. Частка з іх патрабуе лячэння ў шпіталях. У Бельскім і Гайнаўскім паветах ствараюцца зараз памяшканні для ізаляцыі і лячэння хворых з наяўнасцю каранавіруса. Аднак для лячэння хворых у такіх ізалятарых патрэбны кваліфікаваныя лекары і медсёстры. Эксперты па лячэнні каранавіруса апасаюцца, што могуць паявіцца праблемы з падборкай кваліфікаванай кадры для такога лячэння. Прадугледжваецца, што ў выпадку патрэбы да лячэння ковідных хворых пасля адпаведнага абучэння могуць быць накіраваны студэнты апошніх курсаў медыцынскіх вышэйшых навучальных установ і працаўнікі аховы здароўя, якія зараз працуюць у іншых сектарах эканомікі. Прадбачваецца накіраваць да змагання з пандэміяй каранавіруса большую колькасць лекараў і дзеля гэтага штораз часцей паяўляюцца прапановы прыняць на такую працу замежных лекараў. Намеснік міністра здароўя Славамір Гадомскі сказаў, што колькасць ложак для хворых з наяўнасцю каранавіруса мае большаць і да змагання з пандэміяй будуць выкарыстаны прыватныя амбулаторыі і медыцынскія цэнтры, са сваімі ложкамі, лекарамі і іншымі працаўнікамі. Паведаміў ён таксама, што да змагання з пандэміяй каранавіруса прадугледжваецца прымаць на працу лекараў з Беларусі і Украіны, якія могуць хутка навучыцца польскай мове. На тэрыторыі ўсёй Польшчы пачала дзейнічаць праграма «Салідарны корпус дапамогі для сеніёраў», у рамках якой жаўнеры, працаўнікі гмінных асяродкаў сацыяльнай дапамогі і валанцёры сталі купляць лякарствы і харчаванне для патрабуючых такой дапамогі пенсіянераў, для якіх не могуць дапамагчы сямейнікі. Усё гэта стала рабіцца з аднachасным заклікам да сеніёраў не выходзіць са сваіх кватэр у блоках і панадворкаў, у выпадку жыхароў прыватных дамоў, каб не заразіцца каранавірусам. Дзеля гэтага самага патрабуецца ад усіх па-за лесам і паркамі таксама на свежым паветры пабываць у масачках, як рабілі мы раней у закрытых памяшканнях і захоўваць іншыя рэкамендаваныя сродкі асцярожнасці.

Тэкст і фота
**Аляксей МАРОЗА**





# Выключна на сябе

Сёння, праз дваццаць шэсць гадоў пасля першай інаўгурацыі першага прэзідэнта Беларусі, вуліцы беларускіх гарадоў штодзённа запаўняюцца людзьмі, якія дамагаюцца новых справядлівых выбараў. Людзей разганяюць, затрымліваюць, збіваюць, арыштоўваюць, палохаюць, праследуюць, судзяць, выганяюць з работы і вучобы... Што толькі не робяць. Але яны ўпарта выходзяць зноў і зноў, і рашуча патрабуюць правядзення новых справядлівых і празрыстых выбараў. Людзі цвёрда заяўляюць, што паўнамоцтвы ўлады скончыліся!

Вялікая колькасць гэтых людзей нарадзілася ўжо пры гэтай уладзе і гэтым кіраўніку, і іншага начальніка сваёй краіны ў сваім жыцці не мелі. Ёсць таксама багата і старэйшых, тых, якія добра памятаюць, як першы прэзідэнт Рэспублікі Беларусь першы раз паклаў сваю здаравенную далонь на Канстытуцыю Рэспублікі Беларусь і на беларускай мове прамовіў першую прысягу на вернасць беларускай краіне і беларускаму народу. Падчас той гістарычнай падзеі ля чалавека, які прысягаў беларускаму народу, стаяў дзяржаўны бела-чырвона-белы сцяг...

А пасля быў ініцыяваны ім рэферэндум па замене таго сцяга, ля якога ён прысягаў... Былі выстаўлены пытанні за наданне іншай мове статусу роўнага беларускай... А далей болей. Падпісваліся дамовы пра інтэграцыю і саюзную дзяржаву, выкідваліся з будынка парламента дэпутаты, стваралася ўладная прэзідэнцкая вертыкаль, мянялася Канстытуцыя, з'яўляліся палітвязні і прападалі палітыкі, зачыняліся газеты, арыштоўваліся палітычныя апаненты, збіваліся кандыдаты на пасаду прэзідэнта і пяць разоў запар абвяшчалася элегантная перамога на выбарах аднаго і таго ж чалавека... Шосты раз перамога таксама была аб'яўлена, але з элегантнасцю гэтым разам не атрымалася. Шостая інаўгурацыя прайшла ціха, нават таямніча, без пампезнасці, але ў спешцы, і даведалася грамадства пра гэта ўжо пасля яе заканчэння...

Гісторыя, якая ведае ўсё і праходзіла ўсё па некалькі разоў, такога яшчэ не бачыла. Нездарма тую інаўгурацыю не сталі спяшацца прызнаваць шэраг вядучых краін свету. Наадварот. Выбары, якія прайшлі ў Беларусі 9 жніўня не прызналі ні ЗША, ні Еўрасаюз, ні АБСЕ. Для іх, як і для ўсіх, хто не прызнае гэтых выбараў, паўнамоцтвы цяперашняга кіраўніка Беларусі закончыліся ў сімвалічную і трагічна-камічную дату, якая супала з ноччу Гая Фокса, 5 лістапада, калі пяць год таму адбылася пятая па ліку інаўгурацыя адзінага пакуль што беларускага прэзідэнта...

Калі быць шчырым, то выбары ў Беларусі і раней не прызнаваліся ні справядлівымі, ні празрыстымі, ні адпавядаючымі міжнародным дэмакратычным стандартам усімі тымі ж самымі суб'ектамі, што і зараз. Ну і што з таго? Прызнаваць не прызнавалі, а справу мелі з рэжымам больш шчыльную, чым з апанентамі гэтай улады. Больш важным ёсць беларусы. Што яны скажуць?! І гэта справядліва. Бо хто за нас мусіць вырашаць нашы справы?! А беларусы зараз штодзённа запаўняюць вуліцы сваіх гарадоў. Гэта ёсць важным — іх воля і іх рашэнне. Яны зараз спадзяюцца выключна на сябе.

У большасці людзей, хіба што, толькі першыя выбары ў далёкім 1994 годзе не выклікаюць сумневаў у больш-менш справядлівым выніку. Хоць як па мне, то і яны не маглі прайсці без бессаромнага і нахабнага ўмяшальніцтва з боку ўлады. Бо кантраляваліся то яны перафарбаванымі камуністамі, саветамі і сацыялістамі, што па сутнасці ёсць адным і тым. А гэтая публіка па натуры сваёй не можа нічога зрабіць чэсна. Нават калі гэта будзе ім карысна, усё адно не зробяць, каб не прывыкаць. А то раз скажаш праўду, другі раз скажаш, так і ўцягнуцца можна ў гэты працэс. Таму яны і не рызыкуюць. Я і з першымі выбарамі быў бы асцярожны ў ацэнцы чэснасці. Ну а пра астатнія і гаварыць не варта. А вось самыя астатнія, то гэта самыя астатнія. Ва ўсіх адносінах і значэннях самыя астатнія для гэтай улады. Пра іх не тое, што гаварыць трэба, пра іх нельга не гаварыць. Як і пра наступныя, справядлівыя выбары, якіх патрабуе Народ.

Улады ж прапаноўваюць людзям новую Канстытуцыю. Маўляў, вось прымем яе, а пасля па новых законах правядзём новыя выбары. Толькі беларусы настойваюць на сваім. Яны больш не вераць, што ўлада можа ім прапанаваць нешта добрае. Яны спадзяюцца выключна на сябе.

**Віктар САЗОНАЎ**

# Прэзідэнт з пасінелымі пальцамі



Калі Аляксандр Лукашэнка заяўляе, што не будзе трымацца за прэзідэнцкае крэсла пасінелымі пальцамі, гэта азначае, што яго пальцы ўжо моцна пасінелі. Балюча! Але што трэба рабіць беднаму прэзідэнту, калі пальцы не хочуць адрывацца ад крэсла, бо іх схапіла кантрактура. Гэта відавочна сведчыць пра значны дэфіцыт калію ў яго арганізме. Бульбы, якой у Беларусі хапае, яму дастаткова. Бананаў таксама, але яны звязаны з мінулай эпохай бананавых рэспублік і іх трапічных лідараў. А дзе тропікі, а дзе Беларусь? Ёсць і бульба, перасечаная з рэспублікай, пашытай па інтэлектуальнай меры Аляксандра Лукашэнкі. У рэспубліцы, як джэнтльмен у бульбяной лупіне, ён здаецца сабе элегантным і шыкоўным. Але ж прэзідэнт не любіць бульбы, бананаў, думаю, таксама не. Дык, можа, трэба калієвая дабаўка? «Аляксандр Лукашэнка, ешце дабаўкі! Якімі б яны ні былі, здаровым розумам, гістарычнай логікай і, нарэшце, чалавечай прыстойнасцю, прымайце іх раніцай і ўвечары, і хутка кантрактура пальцаў адпусціць. Яны ўжо дастаткова ссінелыя. Устаньце і выйдзіце». Можа, удзячны народ ушануе вас пасмяротна, як самога Леніна, наб'е саломай і зачыніць у маўзалеі ў шкляной магіле? На вечную памятку. Гэта заклікаю, «дзікая падтрымка звонку», як сам прэзідэнт дазволіў сябе апісаць тыя сілы, якія з самавольна прадстаўляю і якія таксама можна назваць больш элегантна, напрыклад, замежнай грамадскай думкай. Трывога за перамены праносіцца па ўсім свеце. Гэта выяўляецца ў масавых і шматмесячных пратэстах грамадстваў, апранутых у бананавыя скуркі альбо бульбяную лупіну. Менавіта ў іх, як у нацыянальныя касцюмы, апранаюцца іх упартыя лідары. У Азіі, Афрыцы, Еўропе і, у пэўным сэнсе, нават у Злучаных Штатах, людзі нарэшце схацелі выйсці з самадзяржаўнага прыгнёту палітыкаў-неўдалот. Больш за тое, цікава, што яны былі прыведзены да ўлады дэмакратычнымі працэдурамі, якія ўжо глыбока ўкараніліся ў палітычных сістэмах большасці краін. Прыклад ЗША і, я балюча заўважаю, таксама Польшчы пад уладай ПіС, паказвае, што адных дэмакратычных працэдур, безумоўна, недастаткова для абароны грамадства ад дэгенерацыі ўлады. І яна прагрэсіруе хутчэй, чым больш грамадскі кантроль над ёй памяншаецца. Праблема таксама ў самой уладзе, якая не бачыць нічога дрэннага ў парушэнні дэмакратычных працэдур. Яна глухая і сляпая да наступстваў сваіх самадзяржаўных рашэнняў, якія на самай справе служаць умацаванню самой улады, а не дабрабыту грамадства. Калі грамадства ўрэшце выявіць, што ўлада яго звяла, яно выходзіць на вуліцы — як гэта адбылося ў Беларусі альбо нядаўна ў Польшчы. Гэты грамадскі бунт не заўсёды здаецца дарэчным. Ён нелагічны з пункту гледжання ўлады. Памятаеце казку Андэрсена «Новае адзенне імператара» пра тое, што апошнім чалавекам, які зразумеў, што ён голы, быў сам уладар? Толькі абсмеяны і асвістаны, ён прызнаўся: «О, блін, я сапраўды голы!» Гэты працэс адкрыцця праўды пра сябе надзвычай вельмі цяжкі і складаны. І я хацеў бы дадаць, што гэта таксама непрыемна для самой улады і для грамадства. Але чалавечая логіка не мае да гэтага нічога агульнага. Як аднойчы прызнаўся Альберт Эйнштэйн, «адкрыццё не з'яўляецца справай лагічнага мыслення, хоць гэта канчатковы прадукт звязаны з лагічнай формай». Ісціна не мусіць быць строга лагічнай. Любая дыскусія з уладай павінна быць максімальна простай. Пратэсты на вуліцах выразна выказваюць гэтую думку. Эйнштэйн: «Дыскусія павінна быць максімальна простай, як толькі ўдасца, але не прасцейшай». Таму што прасцейшае ў выпадку дыялогу паміж грамадствам і ўладамі выяўляецца толькі грамадзянскай вайной. Не жадаю такога ніводнаму грамадству. На жаль, самаўпэўненая ўлада звычайна прытрымліваецца сваёй і хай самай абсурднай логікі. Здаецца, такую ўладу ўвасабляе Аляксандр Лукашэнка. Яшчэ некалькі дзён таму ён папярэдзіў удзельнікаў акцый пра жорсткія абмежаванні: «Тыя, хто сёння спрабуе разбурыць і дэстабілізаваць дзяржаўную інфраструктуру, павінны ведаць — нават у кватэрах, дзе яны схаваюцца з сённяшняга дня мы не бярэм у палон». Дык што, салдаты паспрабуюць узламацца да суайчыннікаў, незалежна ад таго, чые дзверы яны выламаюць? І тут дакладна павеяла Сібірам. (...) «Нам няма як адступаць, і мы не збіраемся гэтага рабіць». Да гэтага я больш нічога не дадам.

**Міраслаў ГРЫКА**



Сваімі вачыма

# Сумная каранавірусная статыстыка

Калі Шаноўныя Чытачы чытаеце гэтыя словы, сітуацыя вакол нас ёсць ужо зусім іншая ад той, якую апісваю. Спецыфіка тыднёвіка дае нам большыя магчымасці рэфлексіі, аналізу ці прачытання салідных рэпарцёрскіх запісаў, але ў канфрантацыі з непрадказальна зменлівай, штодзённай рэчаіснасцю апынаемся на праігранных пазіцыях. Таму дагэтуль, пішучы пра каранавірус, стараўся я пазбягаць усялякіх статыстычных даных, бо ў момант здачы газеты да друку і яе выхаду розніца ў лічбах захворванняў значна разыходзілася. Пішучы гэтыя словы, мелі мы чарговыя абмежаванні, якія ўвайшлі ў сілу з мінулай суботы і панядзелка і маюць абавязваць да 29 лістапада. Не буду іх тут прыводзіць, бо штодзённае жыццё прымушае ўсіх нас прытрымлівацца новаўвядзенняў. Аднак хуткі рост хворых пад трыццаць тысяч штодзень і рост лічбы памерлых, мабыць, прыме форму чарговага распараджэння ў выглядзе нацыянальнага каранціну. Ні больш, ні менш, абазначае ён нам абавязковую хатнюю ізаляцыю і адміранне гаспадаркі. Калі пакуль яшчэ няма гэтага драконавага закону, то непазбежна возьме ён нас цягам найбліжэйшага часу. Ужо зараз Літва, Грэцыя абвясцілі пра трохтыднёвае замарожванне грамадскага жыцця, а іншыя краіны ўводзяць падобныя жорсткія абмежаванні, толькі не называючы іх сапраўдным іменем. Пасля папярэдняга фельетона, у якім апісаў я траўматычную для мяне смерць нашай сваячкі, якая пайшла ў шпіталь на аперацыю, а вярнулася не на вёску, толькі ў каранавіруснай труне адразу на могілкі, адазваліся нашы чытачы і расказалі мне пра падобныя выпадкі з розных куткоў Падляшша. Не ведаю ў чым справа, але выглядае гэта яшчэ і так, што людзям вясковага складу жыцця неяк вокамгненна ў шпітальным асяроддзі паніжаецца імуналагічная сістэма арганізма. Мабыць, гэта занадта далёка ідучыя абагульненні, але наогул патрапіць зараз у сістэму ахоўы здароўя на практыцы абазначае магчымасць застацца і без здароўя. Апісваючыназіранні за каранавірусам заразай, ціснулася мне заўсёды ў галаву пытанне: а колькі ахвяр сярод людзей, якія хварэюць іншымі хваробамі — анкалагічнымі, сардэчнымі ці дыябетам, калі няма доступу да непасрэднай дапамогі? Мы сёння таксама дакладна не ведаем, бо не было тэставання сярод тых, якія памерлі ад інфаркту ці інсульту, што даканаў іх каранавірус. Не ведаем таксама колькі людзей ужо захварэла іншымі цывілізацыйнымі хваробамі, якія без доступу да дыягностыкі ў рэальнасці маюць перад сабою толькі некалькі месяцаў жыцця. Проста спасцігаюць нас драмы, пахаванні, незалечаныя гадамі траўмы для сямейнікаў. І вось у апошніх днях мінулага тыдня быццам па маёй просьбе на адным з інтэрнэт-рэсурсаў з'явілася інфармацыя, што ў кастрычніку бягучага года памерла найбольш людзей у параўнанні з мінулымі гадамі. У апошнім яго тыдні было гэта 12 257 асоб, тыдзень раней — 12 244. Звыш 10 тысяч памерлых было зафіксаваных паміж 10 і 18 кастрычніка. Звычайная сярэдняя статыстычная памерлых за тыдзень у Польшчы была дагэтуль на ўзроўні 7,7 тысяч. Так вялікай колькасці памерлых цягам сямі дзён не было ў дзяржаве ад пяці гадоў. Першая, веснавая хваля каранавіруса ў Польшчы не прынесла так драматычных статыстык як напрыклад у Італіі ці Іспаніі. У рэальнасці ў аналагічным перыядзе колькасць памерлых была ніжэйшай чымсьці год ці два. Для скептыкаў такія даныя былі доказам на тое, што эпідэмія гэта выдумка, звычайная маніпуляцыя ўлад. Усё пачало рэзка змяняцца на зломе верасня і кастрычніка. І яшчэ адно параўнанне, якога нельга абмінуць. Паміж 31 жніўнем а 1 лістападам 2020 года ў краіне памерлі 84 054 асобы. У аналагічным перыядзе год раней (2019), адышло ў вечнасць 68 203 чалавек. Значыць, розніца складае амаль 16 тысяч ахвяр больш. За сухімі лічбамі хаваецца чалавечы боль і смутак. Што будзе з намі? Пакуль адказу няма.

**Яўген ВАПА**

# На граніцы вялікіх магчымасцей (2)

**Тадэвушу добра жывецца пры самай мяжы. Тут не трэба намагацца, каб усё добра выглядала ад вуліцы, для людзей — ніхто туды не ездзіць. Часам наведаецца сусед або сям'я з суседніх Харужаўцаў. Спакой Тадэвуша Багдана папсавалі прэзідэнцкія выбары ў Беларусі. З таго часу сцяна лесу, названа ім „тайгой”, якая аддзяляе ад усходу, перастала даваць пачуццё прыемнай ізаляцыі.**






**Сто метраў на захад**

— У Беларусі рэвалюцыя, — паўтарае Тадэвуш, седзячы пад збітым з дошак свіронкам. Усе будынкі здаюцца быць зроблены спешна і на кароткі час.
— Бацька сам тое ўсё пабудаваў, калі перасяліўся. Раней жыў там, — Тадэвуш працягнуў руку ў бок мяжы. — Яшчэ не так даўно было відаць бацькоўскія будынкі, але ўсё закрыла гэтая тайга.

З панадворка Тадэвуша добра відаць два памежныя стаўпы, пераараную паласу і сцяну дрэў. Там стаяла хата і студня. Такую самую бацька Тадэвуша выкапаў пасля таго, як трэба было яму перабрацца сто метраў на захад. Вада была зусім іншая.

— Яны пакінулі хату. Усе будынкі майго бацькі былі за мяжой. Сем гектараў зямлі — за мяжой. Два гады жылі па суседзях. Бацька ўсё будаваў нанава. Усё, што зараз тут маем, то бацька зрабіў, — сказаў Тадэвуш, седзячы на лаўцы пад свіронкам. Хаця восень, сонца яшчэ грэла. Цэлы панадворак Тадэвуша замыкалі будынкі, размешчаны ў адзін круг быццам бы не існаваў нейкі пункт аднясення. Аднесціся да дарогі? Не, таму што і так вузкая асфальтоўка цягнецца ў бок Ліпшчанаў, а да Тадэвуша можна толькі заехаць па жвіроўцы і польнай дарозе. Наогул Тадэвуш з жонкай задумваюцца чаму менавіта яны належаць да Далінчанаў, а не Ліпшчанаў. Калі жыў бацька Тадэвуша, гэта была гміна Галынка, а сёння ўжо Ліпск.

Бацька Тадэвуша са свайго панадворка штодзень глядзеў у бок мяжы. Згэтуль добра было відаць, як марнее яго хата. Заўважаў, як пасля навальніцы вецер скінуў некалькі чарапіц з даху, або як абвалілася драўляная сцяна шопы. Не мог зразумець, чаму ніхто не прыйшоў на гэтае месца. Магчыма, тады не было б так балюча глядзець. Хаця хутка з вачэй бацькі Тадэвуша пачало прападаць нават і гэта. Усё пачало дзічэць — дрэвы паглынулі апошнюю сведку дзяцінства і зусім іншых часоў.

**А за лесам рэвалюцыя**

Ніколі не вядома што можа прыдасца, таму Тадэвуш любіць збіраць вядзерцы з-пад фарбы, жалеза, банкі. Кавалак ланцуга, які апошнім часам знайшоў на дарозе, як трафей вісіць на свіронку. Пластмасавы дуб таксама туды прычапіў — спадабаўся Тадэвушу. Анархісцкі панадворак усё-такі ў нечым суцэльны і ўтульны.

— А ў Беларусі рэвалюцыя. Што далей будзе? — паўтарае Тадэвуш. Пакуль жыў бацька, сям'я Багданаў, якая засталася па другім баку мяжы, наведвала Далінчаны. Таксама памежны пераход у Ліпшчанах спрыяў візітам. Са смерцю бацькі перасталі слаць да сябе пісьмы і адназначна абарвалася апошняя павуцінка з даўнейшым светам.

— Калісьці ездзілі ў Гародню — так як у Беласток ці Дуброву. Яны нас адведвалі, мы іх. Калі б быў кантакт, можна было б нечага больш даведацца, што там адбываецца. Хаця... — Тадэвуш нядбайна махнуў рукой. — І так праўды пэўна б не сказалі. Бацька калісьці дапытваўся як ім там жывецца, а яны заўсёды адказвалі: „Харашо, харашо”. Харашо, значыць харашо! І бацька ўжо больш не распытваў.



Тадэвуш паглядзеў са сваёй лавачкі ў бок свежаўзаранай памежнай паласы.

— Само можа тры гады таму той пас пачалі араць і даглядаць. Сёння з раніцы ездзілі таксама плугам. Там, за гэтым лесам хіба нехта жыве. Часам гусей чуваць, сабак. Апошнім часам нават музыка далятала, спявалі сабе, гралі. Такія самыя людзі. Добрыя людзі. Часам здараецца, што карова пойдзе ў тую тайгу, яны заўсёды аддаюць — на наш бок заганяць.

За мяжой Багданы таксама маюць сваякоў на могілках, таму адкрылі памежны пераход Ліпшчаны-Сафіева. Тадэвуш, як і іншыя, глядзеў у бок рамантаванай дарогі, якая мела везці на другі бок, на бок гісторыі яго бацькі. Ён не чакаў „цудаў”. Не чакаў, што Ліпшчаны ці яго вёска раптам стане маленькім Берлінам ці Рымам. Проста хацеў паехаць на магілы ў Галынку, па папяросы.

— Робяць дарогу, але ці нешта будзе? Зараз рэвалюцыя на Беларусі. Можа ўвогуле ўсё закрыюць. Што нам засталося па гэтым баку, то наша. Заўсёды гаварылі, што нам нешта вернуць, але... Усё-такі мы ўжо нічога не хочам, у Беларусі рэвалюцыя, каб яшчэ і гэтага не забралі.

(працяг будзе)

Тэкст і фота **Уршулі ШУБЗДЫ**

# Алея ў Мадзьвадзях



Удалося!!! Пасля няўдалай спробы рэканструкцыі выразанай, гэта значыць спынення пагаднення па гэтым пытанні з гайнаўскім старостам (http://www.tropinka.org/rekonstrukcja-alei-narewka-olchowka-5-10-2019/) Згуртаванне дзеля дыялогу «Трапінка» і Нараўчанская гміна падпісалі пагадненне і запрасілі ўсіх сумесна пасадзіць алею абапал гміннай дарогі ў чароўнай вёсцы Семенякоўшчына ў рамках цыкла «Шануйма алеі». На фейсбукавай старонцы «Трапінкі» стварылі мерапрыемства і былі ўдзячныя за доступ да мерапрыемства, якое выклікала вялікае зацікаўленне сярод жыхароў Польшчы і не толькі.

Саджанцы ліпы, клёну і рабіны (з акружнасцю ствала ад 10 да 14 см) паходзілі з гадавальніка Boot & Hortorus sp z oo, і іх набыццё было прафінансавана спонсарамі, якія хацелі мець уласнае дрэва на новай прысадзе і сімвалічна супрацьстаяць жудаснай тэндэнцыі знішчэння прыдарожнай зелені. Група заклікала: «Давайце падаруем сабе крыху прыгажосці, давайце зробім што-небудзь для свайго атачэння! Гэта сапраўды мае сэнс! Давайце пасадзім прысаду, якую ніхто не пасмее выразаць :-). Усіх, хто хоча дапамагчы ў пасадцы, запрашаем у Семенякоўшчыну 17 кастрычніка 2020 г. у 9:00 гадзіну — мы забяспечваем абсталяванне і напоі, разлічваем на Вас!!!» Можна было яшчэ далучыцца (да 15 кастрычніка) да спонсараў (на новы рахунак „Трапінкі" — 98 1140 2004 0000 3802 8047 5744), уплаціўшы 270 зл. і абняць патранажам ліпу (*Tilia cordata*) або арабіну (*Sorbus aucuparia*), а за 230 зл. стаць дабрадзеем клёну (*Acer platanoides*). Трэба было дадаць прыпіску: „Darowizna na aleję w Siemieniakowszczyźnie". Па тутэйшаму — на прысаду ў Мадзьвадзях. Прозвішчы ўсіх спонсараў будуць увекавечаны на спецыяльнай мемарыяльнай табліцы, таму важна, каб было напісана — хто дабрачынца дрэва — асоба, сям'я, жыльцы дома, школа, фірма...

Доказаў таму, што садзілі прыдарожныя алеі, мноства, і многія з іх актуальныя і сёння: дрэвы абазначалі шлях і межы дарогі, абаранялі падарожнікаў ад спёкі, а зімой ад блуканняў і задзімання снегам. Сёння яны забяспечваюць нам дадатковую абарону ад шуму і дыму. Дрэвы ўпрыгожвалі вясковыя дарогі і сядзібныя алеі — менавіта таму яны ўяўляюць сабой не толькі свет раслін, але і з'яўляюцца важным складнікам чалавечага свету, выклікаючы ў нас моцныя пачуцці і эмоцыі. Прыдарожныя прысады — незаменная частка традыцыйнага цэнтральна-еўрапейскага ландшафту. Іх красой захапляюцца польскія і замежныя турысты — асабліва тыя, хто ездзіць на роварах, хочуць падарожнічаць у цяню дрэў. Клопат пра маленькія радзімы не толькі стварае ў жыхароў адчуванне ўкаранеласці, але і прыводзіць да павелічэння турыстычнай прывабнасці гэтага месца — і гэта сумесная задача як жыхароў, так і мясцовых улад. Клопат аб алеі — адна з умоў мудрай аховы ландшафту, і побач з клопатам пра прыродныя скарбы перш за ўсё, клопат пра культурную спадчыну — умова развіцця турызму. Падпісаліся пад запрашэннем Каця Ляшчынская, Міхал Васілюк і Кася Вапа.

І пасадзілі ўсе разам алею!

Але ўлічваючы эпідэміялагічную сітуацыю ў краіне, адклалі святкаванне алеі — вясной 2021 года хочуць сустрэцца тут і адзначыць яе стварэнне! Цяпер, 17 кастрычніка, дапамога ў пасадцы віталася, кожны мог пасадзіць сваё дрэва, але трэба памятаць, што існуе санітарны рэжым: маска, дэзінфекцыя рук, захаванне дыстанцыі. Трэба клапаціцца пра сябе і іншых! Але і так я пазнала замаскаваную другую Міру Лукшу — родную Нараўчанскай гміны, якая з калегамі з рады пасадзіла хутка і спраўна не адно дрэва.

Водгук на ідэю «Трапінкі» перасягнуў самыя смелыя чаканні! Перш за ўсё «Трапінка» хоча падзякаваць шматпакаленнай камандзе жыхароў Семенякоўшчыны — патомкам Мядзведзяў, гміне Нараўка і ўсяму Гайнаўскаму павету за дапамогу ў пасадцы, за энтузіязм і абяцанні сачыць за прысадай! «Мы хацелі б падзякаваць любіцелям дрэў з-пад Пушчы, з усёй Польшчы, Германіі і Швейцарыі за фінансавую дапамогу і патранаж над прысадай. Дзякуем вельмі Нараўчанскай гміне, а асабліва спадару Лукашу Засіму (родам з Мадзьвадзёў), за яго супрацоўніцтва і прыхільнасць, і прафесар Эве Лэнтоўскай. Яна ў лісце «Трапінцы» напісала: «Я спадзяюся, што гэтая добрая група здолее пераканаць мясцовыя ўлады, што пасадка дрэў — гэта добрая акцыя, натхнёная агульным інтарэсам». — Дзякуем вучням Пачатковай школы ў Нараўцы за дапамогу, Андрэю Кэчынскаму за інструкцыі па пасадцы і прафесійны нагляд за акцыяй ды яго сынам і сваякам, спадару Тамашу Ушынскаму з Boot & Hortorus за прыгожую расаду і цярплівасць у парадах. Дзякуем добраахвотнай пажарнай часці з Семяноўкі за паліў дрэў, аператару гміннага экскаватара за кемлівасць у яго выкарыстанні і СМІ за прыгожыя рэпартажы, Міры Лукшы за прысутнасць і яе вершы пра родныя дрэвы, краявід і душу, адлятаючым жоравам за клангар, які суправаджаў пасадку прысады і чытанне вершаў, чатырохногім з вёскі Семянякоўшчына за ласкавае назіранне за нашымі дзеяннямі. Адзін з жыхароў падкінуў назву «Алея адлятаючых птахаў». З нецярпеннем чакаем сустрэчы вясной у Семенякоўшчыне! Можа, тады не будзе абавязваць рэжым — масачкі, дэзінфекцыя рук, адлегласць... Трэба дбаць аб сябе і іншых!

Якая баявітая каманда з Гміннай управы (нараўчанскай), якой камандаваў Лукаш Засім, — яна выкапала ямы для дрэўцаў, адзін з патронаў алеі падрыхтаваў стоўбікі для ўмацавання байкаватых дрэўцаў, а скарбнік «Трапінкі» дваіўся і траіўся, не толькі лічыўшы спонсараў, колькасць якіх усё расла. Пры такой падтрымцы суботняя пасадка прысады (60 дрэўцаў) мусіла быць паспяховай. «Трапінка» дзякуе і вучням Пачатковай школы ў Нараўцы за пераразанне стужак, якімі прымацоўвалі дрэвы да калкоў, а Паўліне Верамюк за арганізацыю акцыі. Школа ўзяла шэфства над дрэўцам у новай алеі — абавязкова сустрэнемся там вясной, школу чакае сюрпрыз!





Прысада будзе вітрынай вёскі. Так лічаць жыхары, якія ўзяліся за пасадку новых дрэў на алеі паміж Мадзьвадзямі і Баравымі, і крыху ў бок пушчы — у Баб'ю-Гару. «Так, гэтая прысада вядзе ў пушчу!» — кажа бабігорац Міраслаў, які тамака займаецца агратурызмам «на зубровым шляху».

Усе сумесна пасадзілі амаль 60 ліп, клёнаў і рабін. Дай Божа, каб усе прыняліся на новай зямлі.

— Алеі — скарбніца біяразнастайнасці. Яны таксама з'яўляюцца часткай нашай культуры. Кожная такая прысада, якая захавана, альбо нанова пасаджана ў падобным месцы ўзбагачае нас, — кажа Кацярына Ляшчынская з Пасек.

— Гэта першая такая алея ў нашай гміне, — цешыцца Лукаш Засім, намеснік войта Нараўчанскай гміны. — І маем тут свае паасобныя ліпы, клёны, арабіны. Тут вельмі шырокая дарога, ад Мадзьвадзёў да Баравых, мае 16 метраў, не было проста лепшага месца. І кавалачак за паваротам у Баб'ю Гару. А адтуль ужо расце натуральная алея, проста ў бок пушчы.

— Што цікава, тут у нас у ваколіцы арабін не было, апрача той старадаўняй каля крыжа ў Баравых, — кажа біёлаг Ірэна Сегень, Медзвядзянка. — Кожны з нас, жыхароў Мадзьвадзёў і выхадцаў з нашай падпушчанскай вёскі цешыцца, што будуць новыя дрэвы, якія будуць расці з намі і нашымі дзецьмі ды ўнукамі.

— А мы спансаравалі свае дрэвы, і пасадзілі іх разам, — кажа Андрэй з Ляўкова, які мае сваю фірму, што аднаўляе і будуе дамы са старых драўляных будынкаў. — Фірмай, і ўсёй сям'ёй. І прыдарожная зямля не будзе нішчэць. Няхай растуць на славу.

— А мы з Варшавы, мы — прыезджыя, купілі хату ў Семяноўцы, прыжыліся тутака. Даведаліся, што будзе ў Мадзьвадзях такая акцыя, і далучыліся. Гэта важная акцыя — мы маем ужо дом, сыноў, і вось пасадзім тут свае дрэвы.

Бачым людзей не толькі з гміны, павета, Польшчы. Усе завіхаюцца з лапатамі, молатам (да ўбівання калкоў), з маленькімі лапаткамі — малечы. Гэта яны будуць бачыць, як алея стане вялікай, шумлівай, цяністай... «Садзіце іх так, як раслі яны ў «школцы», — раіць праз інтэрнэт ляснік Дарак Жукоўскі. Тут трэба ім у яму падсыпаць пад карэнне (зняўшы мяшкі, у якіх яны гадаваліся ў «школцы») пяску, умацаваць, пасля абсыпаць пяском з урадлівым чарназёмам, і пакінуць крыху абніжэння пры ствале — каб туды наліць вады, добра напаіць саджанец, каб вада не ўцякла. Убіць калочкі, прывязаць да іх чорнай моцнай стужкай пянёк. А досыць высокія дрэўцы павяваюць на ветры фіялетавымі стужачкамі — гэта іх «школьны» колер.

Ну, усе проста браты па рабоце. Ад учора «брацякі» дрэў — Коля і Кацпэр Кэчынскія і Грышка — маюць яны асабістую сямейную ліпу. А садзілі яе (не адну) яшчэ сёстры мамы Эвы-Наталлі — Аня Мароз (спонсарка ліпкі), Зося Мароз і Андрэй Кэчынскі.

— Дзякуем табе, Каця! І тваму Манфрэду за трываласць!

Тэкст і фота
**Міры ЛУКШЫ**



https://wielkilas.pl

# Дзе магілы...

Я не мог ацаліць
ні аднаго жыцця
не ўмеў спыніць
аніводнай кулі

таму блукаю па могілках
якіх няма
шукаю словы
якіх няма
бягу

на дапамогу якой не просяць
на спознenae выратаванне
хачу паспець
нават калі запозна.

*Ежы Фіцоўскі*

Сёлета ў Польшчы Дзень Усіх Святых зноў быў іншым. Было інакш, чым заўсёды. Людзі заставаліся дома. Урадавыя абмежаванні, звязаныя з эпідэміяй каранавіруса, загадалі зачыніць брамы могілак 31 кастрычніка, 1 лістапада і 2 лістапада. Аб гэтым прэм'ер-міністр паведаміў у пятніцу пасля поўдня 30 кастрычніка. Ён падкрэсліў, што наведванне могілак цяпер цягне за сабой занадта вялікую рызыку. Аднак ён запэўніў, што «калі пандэмія не ўзмоцніцца, у другой палове лістапада, пераканаўшыся ў адсутнасці вялікіх груп людзей, можна будзе наведаць магілы». Я здзівіўся, чаму сказаў гэта пасля поўдня? Напэўна, шмат хто ўжо накіроўваўся да месцаў, дзе пахаваны іх сваякі. Колькі людзей ехала да нас на Падляшша? Асабліва гэта тычылася каталікоў і людзей, якія наведвалі магілы на каталіцкіх і іншых могілках. Урачыстасць Усіх Святых у Царкве прыпадае не на 1 лістапада, а ў першую нядзелю пасля Пяцідзясятніцы. Гэта рухомае свята, у залежнасці ад даты Вялікадня. У праваслаўнай традыцыі бывае прынамсі некалькі дзён у годзе, калі вернікі Царквы наведваюць магілы сваякоў і моляцца асабліва за памерлых. Найважнейшы час для ўспаміну памерлых — перыяд Пасхі, пасля Вялікадня. У велікодную пару гэта перш за ўсё т.зв. Радаўніца — у другі аўторак пасля Уваскрэсення Гасподняга. Сёлета гэта было 14 чэрвеня. Традыцыя наведвання могілак у лістападзе ўваходзіць у літургічны каляндар Царквы, г.зв. бацькоўская субота, гэта значыць субота перад 8 лістапада — на св. Дзмітрыя (таму яе яшчэ называюць Дзімітрыевай, Дзмітраўскай суботай). Як падкрэсліваюць духоўныя, царкоўнаславянскі тэрмін «бацькоўская субота» кажа не так пра малітву за бацькоў, але за ўсіх, хто пайшоў з жыцця да сваіх продкаў. У гэты дзень святары таксама блаславяюць магілы на могілках. Яны падкрэсліваюць, што кветкі і свечкі на магілках не замяняць малітвы за памерлых. „Мабыць, часам лягчэй купіць свечку, чым памаліцца, але такім чынам мы толькі задаволім сваю патрэбу памятаць пра памерлага, ды не дапаможам яму ніякім чынам», — адзначаў калісь у Радыё Артадоксія а. Мацвей Кічко з парафіі Уваскрэсення Гасподняга ў Беластоку.

Свята ўсіх памерлых пакутнікаў у Рыме было афіцыйна ўстаноўлена ў 609 або 610 годзе папам Баніфацыем IV (608-615). Свята, устаноўленае Баніфацыем IV прыпала не на 1 лістапада, а на 13 мая. Дзень памерлых пакутнікаў 13 мая адзначаўся больш за стагоддзе. У 731 годзе Рыгор III перавёў яго на 1 лістапада. Прычына была вельмі празаічная. Шмат паломнікаў прыязджала ў Рым на свята, і там была праблема з іх харчаваннем у перыяд перад жнівом. У 835 годзе Грыгорый IV па просьбе (альбо загадзе) імператара Людовіка Набожнага пашырыў свята мучанікаў у Рыме на ўсіх святых і ўвесь хрысціянскі свет. Дзень усіх душ, «задушны», які адзначаецца 2 лістапада, мае больш малады генезіс.

Эпідэмія робіць міжасобасныя кантакты цяжкімі, а часам нават немагчымымі. Цяпер гэта нават ускладніла наведванне месцаў. Столькі магіл (розных канфесій) сёлета ніхто не наведае. Шмат з іх трапіць у большае забыццё і руіну. Я сёлета не паеду ў сваё роднае мястэчка Гарадок. Таму не наведаю магілы сваякоў на каталіцкіх і праваслаўных могілках. Не запалю свечкі на габрэйскіх могілках, што ў лесе побач з каталіцкімі могілкамі. Ці вядомыя імёны людзей пахаваных там? Я зраблю гэта іншым разам. Тады запалю свечку таксама на «нямецкіх могілках», дзе ўжо не відаць нават рэшткаў магіл. Там былі пахаваны жаўнеры часоў Першай сусветнай вайны. Ці іх імёны дзесьці запісаны? Чатыры некраполі ў Гарадку сведчаць пра гісторыю гэтай зямлі. А колькі яшчэ месцаў, «якіх ужо няма» нават у нашай памяці? Адзінкавыя магілы ці іншыя месцы пахавання людзей, імён якіх ніхто не ведае. Падляшская зямля памятае!

У гэтым годзе я пайшоў у суседні лясок каб наведаць рэшткі праваслаўна-каталіцкіх могілак у Вялішаве (менавіта мы наведваем гэтае месца ўжо некалькі гадоў). Гісторыя гэтага месца вельмі цікавая, бо 20 красавіка 1902 года праваслаўны прыходскі святар з крэпасці Зэгжэ і ксёндз з прыхода Вялішэва афіцыйна асвяцілі кватэры. Могілкі павінны былі абслугоўваць салдат абедзвюх рэлігій, службовых асоб і грамадзянскіх работнікаў, занятых у абодвух гарнізонах, і членаў іх сем'яў. Вялікая вайна вымела заснавальнікаў і адміністратараў вялішаўскага некропаля, але гарнізоны ўтрымаліся і некропаль усё яшчэ быў патрэбны. У 1915-1918 гадах ён абслугоўваў немцаў, якія знаходзіліся ў Лагер-Яблонна (відавочна, таксама падчас акупацыі), затым салдат Другой Польскай Рэчы Паспалітай, а таксама мясцовых жыхароў — да стварэння парафіяльных могілак у Легіянове ў 1934 годзе. Дык вось тут пакояцца астанкі людзей розных веравызнанняў і розных бакоў канфліктаў.

У кастрычніку 2014 года, да Дня ўсіх святых, я ініцыяваў акцыю: «Давайце прыбярэм могілкі на возеры Квятнёўка. (Падарожжа)». Разам з сябрамі мы вырашылі зрэзаць кусты, якія зарастаюць надмагіллі, прыбраць смецце. Могілкі былі забытыя і вельмі спустошаныя. Акцыя адбывалася ў папярэднія гады. Сёлета, аднак, гэтага не магло быць (па розных прычынах). Я накупіў хрызантэм у «мясцовых вытворцаў». Цяпер па краіне ходзяць разнастайныя акцыі па іх падтрымцы. З-за закрыцця могілак гэта стала для іх сапраўды вялікай праблемай. Давайце, дапаможам ім разам. У гэтым годзе гэтае «забытае» месца наведала шмат людзей. Паставілі свечкі, хрызантэмы, хаця б адгарнулі лісце з рэштках магіл.

У гэтыя дні ў Гарадку я «віртуальна» сарганізаваў мерапрыемства «Гадавіна ліквідацыі гарадоцкага гета». «Да Другой сусветнай вайны больш за палова жыхароў Гарадка была яўрэямі. У мястэчку было некалькі драўляных сінагог. У жніўні 1941 года немцы стварылі там гета для яўрэйскага насельніцтва. Яно займала раён вуліц Зарэчанскай, Цментарнай і Фабрычнай. У гета было накіраваны каля 2500 яўрэяў, якія працавалі, у прыватнасці, на будаўніцтве дарог і разгрузцы і пагрузцы вагонаў на суседняй чыгуначнай станцыі ў Валілах. Гета было ліквідавана 2 лістапада 1942 года, а яго жыхароў дэпартавалі ў транзітны лагер у Беластоку. У час ліквідацыі гета было забіта 40 чалавек. Яўрэяў Гарадка перавезлі з Беластока і забілі ў лагеры ў Трэблінцы». Памяць важная. Памяць пра нашых продкаў ратуе і нас, сучаснікаў. Давайце памятаць, нават калі ўжо позна. Тут, на месцы!

Учора ўвечары я паслаў сябру песню Джоан Баез «We Shal Overcome — «Мы перадолеем». *Мы пераможам, мы пераможам, мы аднойчы пераможам...* Сёння, перад завяршэннем гэтага тэксту, ён адказаў мне: «Я люблю яе... Паслухай, як яна спявае «Дзе кветкі з тых гадоў?» Я ведаю гэты твор у яе выкананні. І ў выкананні Марлен Дзітрых. І Славы Пшыбыльскай «Gdzie są kwiaty z tamtych lat». *Дзе магілы з тых часоў? Дзе тыя кветкі? Дзе магілы з тых часоў? Час сцёр іх след. Дзе магілы з тых часоў? Там, дзе кветкі пасеяў вецер. Хто ведае, ці было так? Хто ведае, ці было так...*

**Дарыюш ЖУКОЎСКІ**

## Дэмаграфія Дубіцкай гміны

21 кастрычніка гэтага года Дубіцкая гміна Гайнаўскага павета налічвала 1480 жыхароў. У ёй 28 вёсак і вёсачак. Шчыльнасць насельніцтва 11 чалавек на 1 квадратны кіламетр. Тут на 100 мужчын прыпадаюць 102 жанчыны. Зараз 15% жыхароў гэта ўдаўцы і ўдовы. Удоваў значна больш чымсьці ўдаўцоў.

Да найбольшых і сярэдніх вёсак належаць Грабавец — 236 жыхароў, Дубічы-Царкоўныя — 234, Ягаднікі — 141, Тафілаўцы — 112, Стары Корнін — 105, Карыціскі — 90, Істок — 80, Чахі-Арлянскія — 76, Вітава — 64, Вэрсток — 58, Елянка — 46 і Войнаўка — 43.

Ад 10 да 40 жыхароў маюць вёсачкі Краскоўшчына — 10, Пяскі і Сямівалокі — па 11, Бобінка — 12, Пасечнікі- Малыя і Старына — па 16, Доўгі Брод — 20, Вілюкі і Гурны Груд — па 21 і Рутка — 36.

Маленькіх паселішч у Дубіцкай гміне шэсць: Забагонне — 10 жыхароў, Кругалае — 5, Выган, Клякава і Якубова — па 2 і Нікіфароўшчына — 1. На працягу двух апошніх гадоў найбольш паменшала жыхароў у Тафілаўцах — на 16, Вітаве — на 14, Старым Корніне — на 11, Ягадніках — на 10, Дубічах Царкоўных — на 9 і Грабаўцы — на 8. **(яц)**

## Бельская вясковая дэмаграфія

Вясковая гміна Бельск-Падляшскі займае плошчу ў 430 квадратных кіламетраў — гэта адна трэцяя Бельскага павета. Яна па-суседску з васьмю іншымі гмінамі. Тут пражывае 6830 чалавек у 61 вёсцы і вёсачцы (салэцкіх вёсак 52). На 100 жанчын прыпадае 100 мужчын. Шчыльнасць насельніцтва ў вясковай гміне складае 16 чалавек на квадратны кіламетр.

Найбольшыя вёскі Бельскай гміны гэта Відава — яна налічвае 552 жыхары, Аўгустова — 529, Пількі — 282, Кнарыды — 263, Плёскі — 237, Лубін-Касцельны — 229, Дубяжын — 213, Праневічы — 204, Кнаразы — 196, Парцава — 177, Гацькі — 174, Грабавец — 173, Крывая — 149, Райск — 147 і Галады — 146.

Да найменшых вёсачак належаць Арлянка — тут жыве ўсяго 10 чалавек, Белая — 16, Яцэвічы — 20, Падбелле і Ступнікі — у адной і другой па 22, Пятшыкова-Вышкі — 24, Жэпнева — 33 і Райкі — 37. Ужо перасталі існаваць два населеныя пункты, а менавіта Саботчына і Ужыкі. **(яц)**

## Дзікія птушкі

Сёлета было мала лясных арэхаў і жалудоў. Сініцы і сойкі не мелі іх удосталь. Яны накінуліся на арэшыны з грэцкімі арэхамі, якія пасадзілі людзі пры сваіх дамах. Яшчэ і зараз сойкі так і цікуюць, калі нікога няма на панадворку. Гэтыхназойлівых крылатых проста ніяк не адагнаць. Некаторыя жыхары страляюць з гэтак званых самапалаў ды з купленых на кірмашах цацачных пісталетаў на г.зв. коркі або пістоны, але ад чаго там палохацца крылатым. Вышэйзгаданыя дзікія птушкі адлятаюць і праз нейкі час зноў прылятаюць і сядаюць на арэшыны. А можа гэта была ўжо іншая ды яшчэ большая іх чарада?

У прылясной вёсцы Плянта Нараўчанскай гміны Гайнаўскага павета ды ў навакольным густым лесе растуць арэшыны двух відаў. Арэхі збіраюць і носяць у свае сховішчы-дуплы ў старых дрэвах прыгожанькія хвастатыя звяркі — вавёрачкі. Яны тут у лесе водзяцца здаўна. Я памятаю іх недзе з 1958 года, калі з Плянты ездзіў поездам у Агульнаадукацыйны ліцэй у Гайнаўку. Вавёркі перад намі ідучымі часта перабягалі цераз дарогу то з аднаго, то з другога боку. Тады многа іх было. Мы любаваліся імі. **(яц)**



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

Зорка
для дзяцей і моладзі

# Ідзе новае!

Ад добрых навін хочацца дыхаць і марыць. Да такіх навін належыць прэзентацыя нашых сяброў. Мова пра новы ролік Гайнаўскага белліцэя. Кароценькі фільм распавядае, а больш дакладна — паказвае партрэты ліцэістаў. Гэта лаўрэаты і фіналісты навуковых алімпіяд. Наша моладзь — прыгожая і разумная. Глядзіш на іх і думаеш — усё добра. Не даканаў нас хворы час, дыстанцыйнае навучанне і разлука з сябрамі. Тут таксама відаць накірункі, у якія глядзіць падляшская моладзь. Як не цікава, сярод вялікага ліку фіналістаў і лаўрэатаў вылучаюцца лаўрэаты па экалогіі і беларускай мове. Праўда, калі пра беларускую мову — няма тут сенсацыі, паколькі ў белліцэях такая традыцыя. Сенсацыя ў іншым. Мы звыкліся, што поспехі па беларускай мове заваёўвалі нашы дзяўчаткі. Яны — першыя дэкламатаркі, пявунні, акторкі, інтэлектуалкі, спартсменкі. А тут у гайнаўскім э-альбоме амаль адны хлопцы! Глядзіш і не верыш, думаеш пра нейкі рэсэт, пазітыўны пералом.

фота Galeria Narewka



Магда Бляяўская

І хочацца верыць, што веды, здабытыя ў такі цяжкі ў псіхалагічным плане час, хутка не выветраюцца з галавы. А гэта прыслужацца ахове нашай прыроды і роднага слова. **(гак)**

# Міфы старажытных беларусаў

**Яблыня** — сімвал несмяротнасці і сілы. Нашы продкі глядзелі на яблыню як на Сусветнае дрэва, на вышыні якога сядзела птушка, а ў яе каранях месціўся змей. Гэтыя матывы часта спатыкаем на вышыванках.

Беларусы верылі, што на такіх дрэвах растуць маладзільныя яблыкі. Іх называлі таксама райскімі і залатымі. Яблыня гэта таксама сімвал сувязей між старым і маладым пакаленнямі. З яблыняй атаясамлялі цяжарную жанчыну, парадзіху і бабку-павітуху, якая прымала роды. Таму гэтае дрэва часта называлі мацярынскім. У казках яблыкі былі рэквізітам, з дапамогай якіх зачароўвалі герояў.

Калі хто з'еў такі яблык, засынаў моцным сном, ці проста паміраў. У іншых зноў казках і былях ад такіх пладоў жанчыны нараджалі дзяцей, якія сыграюць важную ролю ў грамадстве. Матыў яблыні часта выступае ў старых падляшскіх песнях. Найбольш вядомая «Яблынька» запісаная ў Ягуштове, а выконвае яе этна-гурт «Жэмэрва». Падляшская яблыня патрапіла і ў высокую літаратуру. Вось у паэтычным томе «Спеў дрэў» сустрэнем старое дрэва, на якім спеюць маладзільныя яблыкі.

*(Адрэзак на аснове «Беларускай міфалогіі для дзяцей»)*

**гак**

# **Хрумстка-румяныя** дранікі Юлі!

Яшчэ год таму ніхто з нас не паверыў бы ў такую перамену. У час хатняй ізаляванасці многія дзяўчаткі і хлопцы адкрылі ў сабе радасць ад падрыхтоўкі хатняй яды. Праўда, такое было і раней, хаця дзяўчаты засяроджвалі ўвагу на салодкіх пірагах, тортах і дэсертах. Зараз кулінарная гульня, — бо так трэба называць кухонныя шаленствы, якія выдатна падымаюць настрой цэлай сям'і, — пайшлі ў бок здаровага харчавання. Кажучы больш дакладна, вялікай пашанай карыстаюцца вегетарыянскія і веганскія стравы. Дзякуючы ім больш глыбока адчуваем натуральны смак простай стравы ды разумеем, як яда спрацоўвае на энергетыку цела і душы. А колькі здзіўлення і радасці ад аўтарскага рэцэпта? Свае дзіцячыя вынаходствы беражэм і практыкуем цягам жыцця і пасля перадаем іх наступным пакаленням.

У гэтай справе важна прыдбаць прыправы і дадаткі, якія неверагодна падымаюць смакавыя якасці стравы. Мова пра насенне, зёлкі, грыбы, гарошыны, карэньчыкі, лупіны, кветкі. На жаль, мы адышлі ад айчынных прыправ, забылі пра іх смакавыя і лекавыя якасці. А вось італьянская кухня, — вядомая ва ўсім свеце, — якраз і вылучаецца сваімі спецыямі, якія дадаюць да страў з макаронай.

Сёння прапануем вам дранікі з прысмакам кабачка і часнаку, якім падзялілася наша чытачка, вучаніца ветэрынарнага тэхнікума, Юля.

**Складнікі:**

1 кілаграм бульбы
300 грам кабачку (cukinii)
3 зубкі часнаку
2 яйкі
2 чубатыя лыжкі жытняй мукі
соль і чорны перац да смаку
алей або хатні шмальчык для смажэння
1 шклянка кіслай, густой смятаны.

Бульбу і кабачок сцерці на тарцы з дробнымі дзіркамі, дадаць яйкі, соль і муку. Змяшаць і сасмажыць на алеі або шмальцы на сярэднім агні. Тым часам прыправіць смятану соллю і выціснутым часнаком.

— Найлепшыя дранікі проста з патэльні, — рэкамендуе Юля, — тады яны маюць хрумсткія, румяныя скарынкі. І абавязкова з хатняй смятанай, а не магазіннымі соўсамі з пластмасавых пакетаў!

Смачна есці!

**Зорка**

Міра ЛУКША

# Лісты

Каляровыя лісты
падаюць долу.
Не сумуй з імі і ты
ў час невясёлы.
За лістамі грак ляціць,
птах чарнакрылы.
Мо ў Італіі пабыць,
так было б міла?
Недалёка паляціць
лісточак клёну,
толькі ціха шапаціць
у траве зялёнай.
Бо нядаўна шчэ дажджы
корань паілі,
траўцы хочацца расці,
яшчэ хоць хвілю.
Схопіць шэрань траўку ўраз,
пасрэбрыць глебу,
феерверкам на паказ
успыхнуць трэба —
веер каляровых сноў
узляціць да неба,
і прытуляцца ізноў
да роднай глебы.
Каляровы свой букет
нясі дахаты.
У вас будзе ліст-сакрэт
з асенняй датай.

# УВАГА КОНКУРС! № 46-20

Разгадайце загадку, адказ дашліце ў „Зорку" да 29 лістапада 2020 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Што гэта за свінка, на спіне драўляная падпінка, на жываце шчацінка? (Падказка: прылада).**

ш.....

## Загадкі з роднай хаткі

**Адказ на загадку № 41: жук. Узнагароды, аўтаручкі, выйгралі Куба Аварчук, Пётр Вілюк, Лена Малмышка, Матэвуш Красько, Алекс Паёр, Мацек Плева, Матэвуш Смалюк з Арэшкава. Віншуем!**

# Школьны ўспамін

Фота ГК



Віктар Сазонаў (у серадзіне) заслуханы ў вершы Андрэя Хадановіча (Бязмежжа 2019)

Дарослыя дзядзькі такса ма чытаюць „Зорку”. Ну і цёткі, вядома ж, чытаюць, але паколькі я дзядзька, то буду за сябе казаць. Дзіцячыя старонкі, яны як успамін пра дзяцінства — цёплыя, прыгожыя, утульныя... Асабліва, калі там успамін са школьных часоў піша нехта з добрых знаёмых. Вось як у папярэднім нумары „Нівы” давялося з задавальненнем пачытаць успамін Яўгена Вапы „Гісторыя аднаго прысвячэння” пра ягоную школьную сустрэчу з вядомым беларускім паэтам Беласточчыны Віктарам Шведам. І пра тое, як гэтая сустрэча паўплывала на далейшае жыццё і які мела працяг.

На жаль, у мяне няма такой кніжкі са школьных часоў, дзе якісьці беларускі творца паставіў бы там свой аўтограф і я мог бы некалі пасля пахваліцца гэтым перад сваімі дзяцьмі, а зараз ужо і ўнучкай. Ну, і з гонарам напісаць пра тое свой успамін у газету. І хоць вучыўся я ў беларускай школе ў старадаўнім гістарычным мястэчку Гальшаны, дзе дыхаецца даўніной і беларускасцю, і кожны сантыметр зямлі прасякнуты беларускай гісторыяй мінулых гадоў, але ў часы Савецкага Саюза не прынята было запрашаць у школы пісьменнікаў і паэтаў, тым больш тых, хто прапагандуе роднае слова. Ідэалагічныя аддзелы савецкай адукацыі не віталі такіх візітаў. Баяліся яны беларусаў.

Напэўна таму баяліся, што беларускае слова ёсць ёмкае і моцнае, беларуская мова старадаўняя і мудрая, і з чалавека, які карыстаецца ёю, які валодае беларускай мовай, цяжка зрабіць раба, а тым больш дурня. Надта ж сама па сабе беларуская мова мудрая і свабодная, што і яе носьбіт становіцца такі ж.

Ды і зараз, як я ўжо вырас і пасталеў, і сам стаў пісьменнікам, адміністрацыі школ у маёй краіне вельмі асцярожна рэагуюць на з’яўленне беларускамоўнага творцы, бо яшчэ не да канца перамагла ў Беларусі беларускасць. Але ўжо хутка пераможа.

Антыбеларускія чыноўнікі надалей баяцца беларускага слова. Бо беларускае слова такое моцнае, і такое свабоднае, што пачуўшы яго ўсе хочуць стаць такімі моцнымі і свабоднымі. Таму і душылі гэтую мову ва ўсе часы акупанты. А яна —незнішчальная — чакала свайго зорнага часу, які ўжо бачны ў гістарычнай перспектыве.

Затое з радасцю зараз удаецца назіраць, што чым больш шырыцца ва ўжытку сярод сённяшняй беларускай моладзі родная беларуская мова, тым больш становіцца вольных, свабодных, смелых, разумных і годных беларусаў.

А працэс гэты шырыцца, і багатая, насычаная, мудрая, далікатная, глыбокая, філасофская і прыгожая беларуская мова набывае ўсё большую папулярнасць. І зараз на Беларусі яна становіцца мовай эліты. А паралельна з гэтым працэсам увесь свет з захапленнем назірае за беларускай барацьбой за Свабоду. За Свабоду і Беларускасць, якая ў наш час стала сінонімам праўды, адвагі, цвёрдасці, мужнасці і прыналежнасці да старадаўняй магутнай і велічнай беларускай нацыі.

Неўзабаве і ў беларускія школы хутка паедуць беларускія творцы, і кожны вучань некалі зможа пахваліцца тым, што мае аўтограф таго ці іншага пісьменніка ці паэта. Гэта будзе вялікая беларуская эпоха, якая пачынаецца зараз, і мы ўсе з’яўляемся сведкамі пачатку беларускай эры.



Аўтарская сустрэча з Мірай Лукшай (Сустрэчы Зоркі 2019)

Фота ГК

Зараз у маёй хатняй бібліятэцы багата кніг з аўтографамі розных беларускіх творцаў. Я іх атрымаў ужо ў дарослыя гады. Часамі перагортваеш старонкі кнігі, чытаеш з цеплынёй пакінутае прысвячэнне, задумваючыся пра сэнс жыцця і чалавечыя лёсы. І думаецца, што як добра, калі такія аўтографы чалавеку патрапляюць ва ўласную бібліятэку яшчэ са школьных часоў.

Безумоўна, яны ўплываюць на ўсё астатняе жыццё.

І ўплываюць толькі станоўча.

Хай у кожнага чалавека будзе хоць адзін такі школьны ўспамін.

Сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў з Гародні

**Віктар САЗОНАЎ**

## Польска-беларуская крыжаванка № 46-20

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку”. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 41-20:**

Дрон, Ас, Кастусь, ты, масток, партал, тарпан, сот, толк,

ямка, скакалка, Ікра. Дата, тост, палка, маркач, карп, стан, атол, які, сук, смак, ток, льгота.

Узнагароду, **беларускія літаркі на каляровыя алоўкі,** выйграў **Тамаш Зялёнка**. Віншуем!

| | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| USA | Szkic / Schemat | | | | | | Kolega | Staż | |
| | | | Rozkaz | | Róg / Jordan | | | | |
| | | Wygięcie / Dar | | | | | Jenot / As | | |
| Bojownik | | | | Pomarańcz / Aura | | | | | |
| | | | | | | Ania | | Akt | |
| Prawda | | | | | | | | | |
| | Jak / Szyfr | Placek ziemniaczany | | | | | | | Ty |
| | | | Ania | | | | | | |

# Жыць пры немцах

**(ч. 17)**

Казалі, адзін нямецкі салдат убачыў вялікую прыгожую хату, яшчэ не згарэўшую, з цікавасцю хацеў увайсці ў яе сярэдзіну, шарпануў за дзверы, а яны не паддаюцца. Ах так! Адышоў убок, ухапіў запальную гранату і швырнуў яе на будынак і прыгожы дом маіх дзядзькоў згарэў. Астаўся адзін каменны фундамент, на якім стаіць мой першы драўляны дом. Хочацца яшчэ прыпомніць, калі перад расправай з нашай вёскай, калі амаль усё згарэла, былі і ахвяры сярод нашых людзей, а менавіта загінулі ад куль і асколкаў Піліп Галёнка і Піліп Карнілюк. Але гэта не апошнія ваенныя ахвяры, а будзе іх больш, але не так і многа было ў нас у параўнанні з хаця б пазнейшым Райскам каля Бельска. І калі нашы ўцекачы з вёскі апынуліся ў Кляшчэлях, дык немцы іх раздзялілі: мужчын асобна, дзяцей і жанчын таксама. І кожнага мужыка па чарзе правяралі і здымалі ў яго з галавы шапку, ці часам не астрыжаны, а калі такт, дык ты рускі і з такімі ўжо не бавіліся. Але ў дубіцкай таўпе такіх пакуль не было. Але мой бацька? І ён блізка трымаўся ў чарзе свайго айчыма Дзмітрыя Шуля; мо ён паратуе ў бядзе, дасканала ведаючы нямецкую мову.

На дварэ стаяў стол з паперамі, на крэсле сядзеў нямецкі афіцэр, далей салдаты... Але быў патрэбны і перакладчык. Нашы людзі кінуліся з просьбай да Шуля, каб ён ім быў, але дзед быў вельмі асцярожны; маўляў, палічаць за шпіёна, і таму ролю перакладчыка на свае плечы ўзяла Шчапанская, настаўніца дубіцкай школы пры санацыі і савецкай уладзе. У Дубічах у міжваенны час вучылі нашых дзетак Заблоцкі, былі яшчэ іншыя жанчыны, але іх прозвішчаў не ўдалося мне ўстанавіць...

Шчапанская пачала пераводзіць простыя адказы нашых людзей афіцэру. І спачатку ўсё ішло добра, але скора запнулася і не магла зразумець некаторых пытанняў афіцэра; што ж, яна нямецкую мову толькі вывучыла па падручніку, а тут трэба трохі больш. Афіцэр пачаў злавацца, але тут дзед Шуль выступіў наперад і давай тлумачыць. Сталі яны гаварыць між сабою як два немцы — ён і афіцэр. І тут бацька ўжо амаль каля стала і нямецкі салдат ужо хацеў зняць шапку з яго галавы, але тут раптоўна надляцеў на матацыкле салдат, падбег да стала і нешта шапнуў афіцэру, а той па-нямецку нешта крыкнуў натоўпу, а дзед вытлумачыў: «Разыходзьцеся, і то хутка». І немец сеў у каляску матацыкла і з пылам ад'ехалі ў сінюю даль. Якую такую пільную вестку прынёс матыцыкліст: мо пра той напад на абознікаў над сажалкай у нас? Ніхто не ведае. І «бежанцы» давай як найхутчэй варочацца ў свой спалены кут. А калі б не гэта выпадковасць лёсу, цікава, ці дзед Шуль змог бы ўратаваць свайго прыёмнага сына — майго бацьку?

І мне здаецца, што гэта залежала ва ўсім ад паставы, настрою і чалавечнасці таго афіцэра. А яны ж былі розныя і сярод немцаў многа было парадачных і з сэрцам людзей, нават з вышэйшай афіцэрскай эліты. А другая групка дубічлян апынулася каля невялікай вёсачкі Рутка. Чаму яны пабеглі акурат туды? Там на Рутцы разгарнуліся непрадбачаныя падзеі. Бо над рэчкай Арлянкай і то з боку Рудутаў распалажыўся большы вайсковы атрад са сваім штабам і тут яны адпачывалі. Іх спакой парушыў мясцовы хлапчук Васіль Леўчук, які прыбег сюды са сваім вусным даносам. Спачатку вартаўнік яго прагнаў як сабаку, але



ён не ўгаманіўся, бо вывучыў і запамятаў адно нямецкае слова, а яно лёгкае: *Stab*, гэта значыць штаб, нічуць не розніцца ад нашага. І гэты «герой» зноў явіўся пад палатку ваенных і вартаўнік ужо хацеў яго прагнаць, але той пачаў гаўкаць раз за разам: *Stab, Stab!* І салдат падумаў: штось тут не так, і прапусціў маладога даносчыка, а той давай гаварыць: што тут недалёка на полі, на хутары пражывае мая сястра Сонька з мужам Сохай і тут недалёка ёсць і другі хутар (на вынасы), дзе пражывае Фёдар Ляўчук з сям'ёю, а ў яго хаваюцца некалькі савецкіх байцоў і яны пад вечар падбіраюць яйкі ў маёй сястры Сонькі і штось трэба рабіць.

Афіцэр выслухаў яго і кажа: вядзі маіх салдат туды, праверым, ці гэта праўда. Паслаў двух салдат і яны пайшлі разам з даносчыкам на месца здарэння — да Фёдара. І пытаюцца ў яго: ці ў цябе не хаваюцца салдаты рус? Ён адказаў, што не і ён на вочы іх не бачыў. Але немцы для праверкі падпалілі яго хляўчук і адтуль з вышак давай выскокваць байцы з карабінамі і аднаго з іх немцы забілі. Але і байцы аднаго выстралам здолелі рашыць, а трэба было найперш расправіцца з тым правакатарам Васілём; відаць, пашкадавалі дзярмо. Ацалелы немец і даносчык далі ходу і паўцякалі. Той другі ўдома зашыўся, як мыш пад мятлою, нанёсшы столькі гора і няшчасця і людской пагарды сваёй вёсцы, яе жыхарам і чужым людзям, якія тут хацелі знайсці нейкі прытулак. І на сваю бяду — знайшлі. Немцы паднялі трывогу і пачалося; найперш арыштавалі Фёдара Леўчука на яго хутары і павялі. Ніякія маленні жонкі Фёдара, Сашы, просьбы нават на каленях, трымаўшы на руках маленькага сынка Пецю не далі ніякіх вынікаў; яна яшчэ бегла за гітлераўцамі, спадзеючыся нейкага цуду з неба. І раз'ярaныя фашысты хапалі ўсіх, хто трапіўся ім пад рукі.

І трапіліся ім нашы жыхары з Дубіч — Іван Грыгарук і Уладзімір Старасельнік (сын дыякана і настаўніка Рамана Старасельніка). Пры ім быў знойдзены трафейны бінокль, а гэта небяспечная рэч у час вайны, а быў ужо па войску гэты малады хлапец. Былі схоплены жыхары Руткі Сяргей Бахмат і Лявонь Рута. Яшчэ аднаго арыштавалі, але жонка кінулася яму на шыю, засланіла і давай крычаць благальна: «Гэта мой муж і ён ні ў чым не вінаваты, і лепш мяне забіце». І, на дзіва, немцы махнулі рукой і адпусцілі яго. А тых пералічаных павялі на расстрэл і яшчэ па дарозе схапілі некалькі выпадковых мужыкоў з аддаленых мясцін і за вёскай расстралялі іх усіх. І як я чуў, некаторых з вязняў люта катавалі яшчэ перад іх смерцю. А гэта ж было франтавое нармальнае войска, не эсэсаўцы, не гестапаўцы. Ва ўсіх гэтых фармацыях было больш відаць зла чым дабра.

Людзей ахапіў жах і хаця саветы не былі ім раем і нейкай духовай апорай, але тыя са свастыкай на рукавах — гэта ўжо не людзі, гэта чума з «прагрэсіўнага» так званага захаду на нас хлынула. Так многія думалі, нават тыя, хто не так даўно захапляўся Нямеччынай.

А дома, у родным сяле, хаця ўсё спалена ў нас, не будзеш сядзець са складзенымі рукамі, бо трэба абрабляць родную зямельку. Але чым і як? Але беларусы з Падляшша мелі сваю прыроджаную смыкалку і талент, бо пачалі аднаўляць сваю знішчаную сельскагаспадарчую «індустрыю»; ставілі пакуль на слупах прымітыўныя хлеўчыкі і шалашы пакрытыя наспех саломай, каб схавацца ад дажджу і пражыць з зямелькі свае ад вякоў існаванне. І мелі сваіх майстроў на ўсе віды і быў ім (я яго ўжо ўспамінаў) Сымон Корх, які прыступіў у прымы да адной з нашых дзяўчат Насці, а сам быў ураджэнец з Кархоў. І сялянам цяпер спатрэбіўся кожны кавалак жалеза (пры Польшчы яго надта не хапала), а яго не бракавала ад разбітай ваеннай савецкай тэхнікі. Ва ўрочышчы «Бабка» на ўсход ад Тафілаўцаў стаялі пяць ці шэсць разбітых савецкіх танкаў, экіпажы якіх успелі ўцячы. У адным танку тафіляне ўбачылі: ляжаў забіты танкіст і ў руках яго сціснуты незакончаны ліст да сваёй мілай дзяўчыны са словамі: «Милая моя, мой танк не одна вражья пуля не в силах пробить...». І дзіўна, што не варожы снарад прабіў навылет сцены танка і яго вадзіцеля, а свой савецкі з суседняга танка, які стаяў блізка яго. І гэта загадка, чаму свой страляў да свайго і каб зараз уцячы недзе ў лес? Мо і памыліўся ў гэтай ваеннай гарачцы, бо ў кожнай вайне многія памыляюцца, хаця ён і найразумнейшы. Немцы сваімі цягачамі гэтыя танкі пазабіралі. Ясна, гэтага танкіста людзі выцягнулі і недзе пахавалі. А навокал груд рознай зброі і найбольш амуніцыі валялася на зямлі — снарады, поўныя яшчыкі патронаў, міны. Тут, апрача танкаў, былі іншыя віды ўзбраення і гэтага «дабра» мноства валялася на нашых палях, лугах, лясах і рэчках, што для многіх стала трагедыяй і няшчасцем для дзетак, якія разбіралі іх на часткі або кідалі ў агонь, а тут гатовы смерць і калецтва.

Нашы людзі з разбітых машын выбіралі тыя часткі, што лёгка можна было іх перарабіць на часткі плугоў, вазоў, барон, пружыновак. З добрай сталі наш каваль мог выкаваць вельмі моцную і зручную рэч, часам лепшую ад фабрычнай прадукцыі. А зноў немцы, такія гаспадарныя, мала цікавіліся лёсам нашых людзей і іх магазіны і склепы таксама вылучаліся пустатою і бракам дастаўкі.

Акупанты на акупаванай тэрыторыі хутка тварылі сваю заборчую ўладу і ў Бельску-Падляшскім стварылі Арбайтсамт, дзе трэба было прапісацца на сваім напалавіну здымкам і атрымаць дакумент тоеснасці. І мая маці і іншыя пайшлі ў Бельск аформіць работу і калі вярталіся дамоў, на ўскраіне (а так напачатку ехаўшы з Орлі) горада далучыўся да іх васточнік. Дзесьці ён так доўга хаваўся, ясна што ўжо ў цывільнай вопратцы, але было відаць, што ён не наш, бо меў іншыя рысы твару і вельмі касыя вочы. Нашу групу міналі раз-пораз ваенныя падраздзяленні немцаў і на нашых людзей не звярталі ніякай увагі. Але тут з апошняй хаткі па правым баку выбегла дзяўчынка гадоў 8-9, дабегла да немцаў, якія акурат зраўняліся з групай, і пальцам паказвае на «васточніка» і голасна крычыць: «рус, рус». І там яшчэ штосьці балбоча па-польску. І ясна, немцы гэтага няшчасніка ўзялі пад свой канвой і адвялі яго не так далёка, недзе за бліжэйшы будан і адтуль пачуўся сухі непрыемны выстрал. І маленькая, амаль «нявінная» душка і нават без ніякай «узнагароды» прадала нявінную кроў. А мо яна і сёння, як старэча, жыве, руплівая і законная абрадніца Мацеры Божай, і паклоны ёй б'е? Мо яна займала высокія пасады пры нашых розных урадах, або мо яна прафесарка? Хто ведае, магчыма, гэта яе бацькі тады паслалі, каб згубіць чалавека. А такіх «герояў» была процьма сярод усіх нацый. Але мне здаецца, што мы, беларусы, у гэтым хіба стаім на апошнім месцы. А калі так, дык наш род не прападзе. Бо прадаць чалавека — гэта апошняя ганьба і сорам не толькі перад людзьмі, але і перад Богам. Але ёсць здраднікі і сярод нас. І наша таўпа людзей, якія былі сведкамі гэтай трагічнай сцэны, ад душы праклінaлі дзіцятка, называючы яго Каінавым байструком. Што ж, гнеў, калі слушны, нельга кідаць у адну яму і закідаць гноем.

(працяг будзе)

**Мікалай ПАНФІЛЮК**

*Прафесару Аляксандру Баршчэўскаму на 90-тыя ўгодкі*

# Сіла жыцця



На восемдзесят быў мой верш „Нуль восем”:

„як проста павярнуць
час
хопіць толькі заплюшчыць
вочы
і загуляць у карнавальным танцы
паваротаў ...”

На дзевяноста няма верша. Калі мы спаткаліся некалькі гадоў таму назад Прафесар сказаў, што Ён не піша ўжо вершаў, бо іх ніхто не чытае. Не паверыў я ў гэта тады і не веру дагэтуль. Чакаю, бо як жа можа не пісаць вершаў чалавек, якога сутнасць выплывае з паэзіі:

„Ты ва мне,
як царква ў душы Рублёва:
візія,
мроя,
мадонна.
Грудзі, завешаны рыфмамі,
звоняць,
цешаць,
мучаць,
клічуць у дарогу.
Чыё сэрца паэзіяй выцвіце,
той стане трывогай,
той рэшту жыцця
мець будзе з абрыва,
праз імглу і аблокі ...”
Алесь Барскі, Ты ва мне ...,
зборнік „Жнівень слоў”, 1967 г.

Няхай тады будзе проза ўспамінаў. А ўспаміны гэта словы, якіх не хочацца пакінуць.

**Слова першае.**

Забываюцца падрабязнасці. Напэўна аўтарская сустрэча ў ліцэі: Ён — славуты паэт і навуковец, я — вучань. І на канец поціск рукі. А рука выпешчаная і нерэальная. З гэтай пары я хацеў мець такія рукі і хацеў пісаць вершы — гладкія, філасофскія і пра каханне.

Рукі можа аказаліся даволі гладкімі, вершы не заўсёды такімі і не заўсёды пра каханне.

**Слова другое.**

Беларуская філалогія ў Варшаве і славутае „Праўда Сцепанюк, што дзяўчаты сёння прыгожа выглядаюць?”. А потым космас літаратурных ведаў. Не верылася, што хтосьці можа толькі прачытаць і з такім захапленнем гаварыць пра літаратуру. Пасля заняткаў бутэлька малака ў руцэ ў магазіне „Służew nad Dolinką” і звычайны батон, які тады яшчэ Доктар спажываў, стоячы ў чарзе ў касу. Бандароўскі хлопец на сталічных парогах. Былі таксама цяжкія размовы, калі погляды на грамадскую дзейнасць разыходзіліся вельмі выразна. Але гэта было ... Ён — кіраўнік кафедры, я — студэнт, які так часта бываў на занятках, што некаторыя выкладчыкі не заўважалі майго „быцця”. Але Ён не дазволіў знікнуць.

**Слова трэцяе.**

Здзіўленне месца. Кабінет дырэктара Бельскага белліцэя. Ён — стваральнік і старшыня камісіі алімпіяды па беларускай мове для ліцэістаў, я — дырэктар ліцэя. Толькі чалавек, які зборнік „Белавежскія матывы” прысвяціў „Беларускай моладзі ў Польшчы” мог дабіцца арганізацыі адзінай у краіне алімпіяды па мове нацыянальнай меншасці. Чароўная размова на прывітанне: „Як там жонка, гжэчна? Бо мая Ніна не заўсёды мяне слухае”. І мая Валя таксама не заўсёды, Спадар Прафесар. А слова „гжэчна” прашу карэктара не мяняць на больш беларускае, таму што яно надалей звініць у вушах сваёй рэальнасцю. І яшчэ магчымасць сведчання размовы двух Настаўнікаў: Аляксандра Баршчэўскага і Васіля Сакоўскага, які быў членам камісіі алімпіяды. Два белавежскія зубры, два беларускія волаты, без якіх і з нас не было б нічога.

**Слова чацвёртае.**

На восемдзесят у Ваяводскі асяродак анімацыі культуры ў Беластоку з'ехалася нас шмат. Паклоннікі і сябры, выпускнікі і цікавыя. Даўно не бывала так вялікай беларускай грамады. Прыехалі да Настаўніка, Прафесара, Паэта, Беларуса. І да ягонай жонкі і музы Ніны Баршчэўскай, якая пасля Яго панесла на сваіх заўсёды маладзенькіх плячах цяжкасць кіравання кафедрай і апеку над Яго спадчынай. Ён — бадзёры, мы — сентыментальныя. Крыху жаль, што ўсё так хутка прайшло.

**Слова пятае.**

Дзякую Спадар Прафесар.

**Слова шостае.**

Цяпер чакаю Вашых сотых угодкаў. Бо хто як не Вы! Віктар Швед, на жаль, не дайшоў.
Веру, што Ваша дарога будзе трываць яшчэ доўга ...

„Я вітаю штодзень
Сонца свежае,
Яно з лесу ідзе
Па бязмежжынах.
Сыпле промні нам
Серабрыстыя,
І лугам і лясам —
Промні чыстыя.
І вітае калоссе
Гамоннае,
Калі ў небе калёсіць
Нястомнае.
Я люблю, як ідзе
Па-над сёламі
І крычу „Добры дзень!”
Сонцу кволаму”.
Алесь Барскі, Песня, з альманаха
„Мой родны кут”, 1963 г.

**Андрэй СЦЕПАНЮК**

# Гартаючы памяць...

**Уладзімір Караткевіч**... Вымаўляю гэтае імя — і ў думках пераношуся ў сваё студэнцтва. Яно было цікавым і змястоўным. А яшчэ заўсёды радавалі сустрэчы са знакамітасцямі, якія ладзіў для нас Уладзімір Андрэевіч Калеснік — любімы выкладчык і рознабакова адораны чалавек.

Дагэтуль да дробязей памятаюцца яго лекцыі, гутаркі і бацькоўскае стаўленне да студэнтаў. А яшчэ ён, пашыраючы наш кругагляд, час ад часу запрашаў на сустрэчы з намі пісьменнікаў і паэтаў. Адным з іх быў Уладзімір Караткевіч — высокі, прыгожы, таленавіты...

— Ну, галубіцы іярданскія, загадваю вам прачытаць творы Уладзіміра Сямёнавіча, каб сустрэча з ім была карыснай і максімальна змястоўнай.

Незадоўга перад тым Калеснік купіў „Масквіч” (за ружовы колер Караткевіч ахрысціў яго велікодным яечкам). „Аб'ездзіць” машыну запрасіў Янку Брыля. Той у сваю чаргу прапанаваў узяць у кампанію Караткевіча, у якім бачыў „буяны талент”.

Давяраючы Брылёваму „нюху” на здольных людзей, Уладзімір Андрэевіч Калеснік без ваганняў згадзіўся. Падарожнічаючы па Слонімшчыне і Навагрудчыне, яны дамовіліся аб сустрэчы са студэнтамі ў Берасцейскім педінстытуце.

„Я адкрыў вечар, — успамінаў У. А. Калеснік, — заклікам да студэнтаў набрацца смеласці і выступаць шчыра”.



Чытацкая думка можа быць карыснай пісьменніку тады, калі яна шчырая, а калі падладжана пад стандартны густ, хрэстаматыйныя нарматывы, — нічога не вартая. Такія веды залічваюцца толькі на экзаменах ды і то педантычнымі выкладчыкамі, а нашаму госцю, мастаку слова, патрэбна жывое ўспрыманне. Караткевіч выступаў свабодна, раскавана, гаварыў пра свае творчыя планы, чытаў фрагменты з рамана „Каласы пад сярпом тваім”, над якім працаваў, на памяць дэкламаваў пра Машэку, паўстанца-ваўкалака, верш „У векавечнай бацькаўшчыне клёны”, і ўсё гэта рабілася так непасрэдна, натуральна, што аўдыторыя парадніласся з госцем, студэнты ахвотна выступалі.

Падкупляў прысутных і талент Караткевіча-чытальніка. „Сапраўдны артыст”, — захапляліся мы, чакаючы свае чаргі на аўтограф. Такія сустрэчы заўсёды мелі працяг на лекцыях:

— Ну і як вам, паненкі, Караткевіч? Халасцяк, між іншым. Прызнавайцеся, хто мае ахвоту стаць ягонай жонкай? Можа, ты, Тамарка? — звярнуўся да мяне па-свойму Уладзімір Андрэевіч.

— Пакуль не планую замужжа.

— А мо прозвішча не падабаецца? — працягваў ён жартаваць.

— Тады зробіш праз злучок: Міткевіч-Караткевіч! Гучыць! А што? Згаджайся!

Шмат разоў згадвалі мы пасля за агульным сталом гэты жарт, і заўсёды Уладзімір Андрэевіч ушчуваў:

— Вось паслухалася б мяне, выйшла б за Валодзю, нараджала б яму дзяцей, і род Караткевічаў не звёўся б.

Сталася так, што менавіта Калеснік быў ініцыятарам жаніцьбы Караткевіча на выкладчыцы гісторыі КПСС Берасцейскага педінстытута Валянціне Браніславаўне Вадковіч.

Аўтограф Караткевіча на кніжцы „Вока тайфуна” сведчыць: „Міламу майму Валодзю Калесніку, які мне „ўдружыў” раз і назаўсёды, свату і брату — ад аўтара. Ул. Караткевіч. 26.XI.74 г.”

**Тамара ЛАЎРАНЧУК (Міткевіч). г. Высокае**

**P.S.** Пазнаёміўшыся 2 лістапада 1967 года на падобнай сустрэчы ў студэнцкай аўдыторыі ў Берасці з Валянцінай Браніславаўнай, Караткевіч на пачатку 1971 года прапанаваў ёй руку і сэрца. Спярша жылі ў двухпакаёўцы разам з маці Уладзіміра Сямёнавіча (прывёз яе ў Мінск з Оршы ў 1963 г.). У 1973 годзе абмянялі берасцейскую кватэру жонкі і мінскую Караткевіча на трохпакаёвую, дзе ў яго быў асобны ўласны кабінет.

Валянціна Браніславаўна працавала ў Інстытуце мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР. Карысталася аўтарытэтам у калег за працавітасць, за вялікі запас ведаў і цярпення.

Дванаццаць год жыцця з Уладзімірам Сямёнавічам адвёў лёс гэтай мудрай жанчыне. Невылечная хвароба спыніла яе зямны шлях. Гэта здарылася 28 лютага 1983 года.

Караткевіч вельмі цяжка пераносіў страту блізкага чалавека: „Застаўся я адзін і не ведаю, як мне быць далей. Дома пустыя сцены, і быць мне ў іх пакуль што дужа цяжка”.

Паехаў у Оршу. Жыў у сям'і пляменніцы, у хаце бацькоў (маці памерла напрыканцы 1977 года).

„Сядзеў на радзіме, у Оршы. І — ні радка. Толькі ўсё думаў і спаў, спаў і думаў”.

А чацвёртай гадзіне раніцы 25 ліпеня 1984 года Караткевіча не стала.

**Т. Л.**




■ Марыя Янель




■ Марыя Казёл

## З „Нівай” праз гады

У Нараўчанскай гміне Гайнаўскага павета ёсць многа верных чытачоў беларускага штотыднёвіка „Ніва”. Яны пастаянна чытаюць родны часопіс. „Ніву” № 43 ад 25 кастрычніка гэтага года я завёз чытачам у Ахрымы, Падляўкова, Заблотчыну, Нараўку, Міклашэва, Лешукі, Новіны, Плянту ды на калёніі Новага Ляўкова і Старога Ляўкова.

Зрабіў здымкі шматгадовым чытачкам „Нівы” Марыі Казёл і Марыі Янель. Яны абедзве многа гадоў жывуць у вёсцы Плянта. Прыйшлі сюды на пастаяннае жыхарства, калі выйшлі замуж. Марыя Янель ураджэнка прыгранічнага Масева Нараўчанскай гміны. Чытаць па-беларуску навучылася ў пачатковай школе ў роднай вёсцы. Да пенсіі працавала прадаўшчыцай у крамах ГС у Нараўцы і Плянце.

Тэкст і фота **Янкі ЦЕЛУШЭЦКАГА**



## Будзе тратуар з Нараўкі ў Свінарої

Фірма Страбаг з Бельска-Падляшскага пабудуе тратуар з Нараўкі ў Свінарої Нараўчанскай гміны Гайнаўскага павета. Зараз яна рыхтуе абочыны даволі рухлівай ваяводскай дарогі № 687 пад іх пракладку (на здымку, які я зрабіў 8 лістапада гэтага года). Тут тратуара ніколі не было. Прыходзілася хадзіць па маставой.

Тратуар будзе — вось так на вока — сама менш 1000-метровай даўжыні. Будзе гэта вялікая выгада для ўсіх пешаходаў, не гаворачы ўжо пра бяспеку.

Тэкст і фота **Янкі ЦЕЛУШЭЦКАГА**




Пра вартасць архіваў і музеяў для захавання гістарычных звестак, а значыць і для цэлай гісторыі, „Ніва” пісала не аднойчы. Таксама не аднойчы на старонках выдання змяшчаліся расповеды пра сайт таго ці іншага архіва, дзе зберагаюцца дакументы, датычныя тых ці іншых галін навукі, культуры і нават вытворчасці. Зараз надышоў час распавесці пра інтэрнэт-старонку Беларускага дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва (БДАМЛМ), якая месціцца па адрасе **http://www.bdamlm.by.**

Як пазначана на галоўнай старонцы сайта, дадзены архіў-музей з'яўляецца скарбніцай нацыянальнай літаратуры і мастацтва. „На сайце змешчаны апошнія навіны, звязаныя з дзейнасцю архіва-музея. Вы можаце даведацца пра новыя дакументы і матэрыялы, якія прайшлі навуковае апісанне, пра выставы, падрыхтаваныя работнікамі БДАМЛМ, пра навуковыя канферэнцыі і іншыя падзеі ў жыцці архіва-музея”, — распавядаецца там жа, у тэксце пад загалоўкам „Сардэчна запрашаем”.

Дарэчы, дадзены тэкст змяшчае кароткі расповед пра ўсе рубрыкі сайта — „Пра архіў”, „Выставы”, „Паступленні”, „Навуковая дзейнасць”, „Фонды”, „Паслугі / Адміністрацыйныя працэдуры” і „Кантакты”.

Што ж тычыцца галоўнай старонкі, то яна выглядае даволі прывабна. Афармленая ў адценнях карычневага колеру, старонка нібыта падкрэслівае нейкую даўнасць таго, пра што ходзіць на партале.

Усе выйсці на рубрыкі знаходзяцца ўверсе цэлага выяўлення пад назвай сайта. З левага боку змешчаны выйсці да навін. Прычым навіны гэтыя абнаўляюцца даволі аператыўна, калі зважаць увогуле на тое, як хутка можа абнаўляцца архіўны сайт. Так, новыя паведамленні там размяшчаюцца прыкладна раз на месяц. Лістападаўская навіна ўжо з'явілася на сайце, і распавядае пра выставу, прысвечаную 120-годдзю з дня нараджэння спевака Міхася Забэйды-Суміцкага. У паведамленні змешчаны расповед пра асабістыя дакументы, якія складаюць аснову выставы. А яны ў свой час, згодна з завяшчаннем артыста, які другую палову жыцця пражыў у Празе, былі перададзены на захаванне ў Беларусь.

Увогуле зараз ва ўстанове працуюць тры выставы. Акрамя вышэйзгаданай, яшчэ — „Нестар беларускага адраджэння” да 160-годдзя Браніслава Эпімаха-Шыпілы і „У суаўтарстве з народам”, прысвечаная кнігам „Я з вогненнай вёскі...” і „Блакадная кніга”. Пра гэта ходзіць у рубрыцы „Выставы”. З гэтай рубрыкі таксама можна выйсці на вялікую колькасць віртуальных выстаў, назвы якіх з'яўляюцца гіперспасылкамі. Цікава, што ёсць і віртуальная выстава, прысвечаная уласна архіву-музею, якому сёлета споўнілася 60 гадоў.

„З высакароднай мэтай захаваць унікальныя скарбы нашай літаратуры, мовы, культуры і быў створаны 9 чэрвеня 1960 г. Беларускі дзяржаўны архіў-музей літаратуры і мастацтва (БДАМЛМ). Задума была своечасовая і вельмі прагрэсіўная. Сёння, калі за плячыма ўжо 60 гадоў руплівай працы, з гонарам можна сказаць: Беларусь мае найкаштоўнейшую скарбніцу рукапісных помнікаў і дакументальных крыніц па гісторыі нацыянальнай літаратуры і мастацтва”, — распавядаецца ў тэксце-самапрэзентацыі да інтэрнэт-выставы, якая называецца „Збіраўся скарб...”. Паводле змешчанай там інфармацыі, зараз установа налічвае звыш 520 фондаў і калекцый, створаных на аснове асабістых архіваў дзеячаў літаратуры і мастацтва, а таксама дакументаў творчых саюзаў, выдавецтваў, розных установ.

**Аляксандр ЯКІМЮК**

## Дата з Календара



# 100 гадоў з дня нараджэння Андрэя Макаёнка

Беларускі драматург Андрэй Макаёнак нарадзіўся 12 лістапада 1920 года ў вёсцы Борхаў Рагачоўскага раёна. Паходзіў з сялянскай сям'і. У 1938 годзе скончыў Журавіцкую сярэднюю школу, працаваў арганізатарам-масавіком у раённым Доме культуры. У 1939 годзе быў прызваны ў Чырвоную Армію. У час вайны ўдзельнічаў у баях на Крымскім фронце. Пасля цяжкага ранення ў 1942 годзе Макаёнак быў дэмабілізаваны.

У час і пасля вайны Андрэй Макаёнак працаваў у Акаурцкай сярэдняй школе Грузіі (1942-1943), затым сакратаром Журавіцкага райкама камсамола (1944), цяпер у складзе Рагачоўскага раёна, Гродзенскага гаркама камсамола (1945), загадчыкам партыйнага кабінета Магілёўскага чыгуначнага вузла (1945-1946), памочнікам сакратара Журавіцкага райкама партыі (1946-1947). У 1949 годзе скончыў Рэспубліканскую партыйную школу пры ЦК КПБ. У 1949-1953 гадах — загадчык аддзела прозы часопіса „Вожык”, у 1966-1978 гадах — галоўны рэдактар часопіса „Нёман”. Быў на розных дзяржаўных пасадах, як сябра дэлегацыі БССР у 1965 годзе ўдзельнічаў у рабоце XX сесіі Генеральнай Асамблеі ААН.

Шырокаму колу Макаёнак больш вядомы як літаратар-драматург. Друкаваўся з 1946 года. Пісаў таксама гумарэскі, фельетоны, нарысы. Першая п'еса — аднаактовая драма „Добра, калі добра канчаецца” (1946). Аднаактоўкі „Перад сустрэчай”, „Жыццё патрабуе” (1950), „Аксеніна цялушка” і „Крымінальная справа” (1951), „Першае пытанне” (1952) вызначаліся актуальнасцю праблематыкі. Шматактовыя драмы „Ворагі”, „Узыходы шчасця” (абедзве — 1947), „Выйгрыш” (1948) пры жыцці аўтара не друкаваліся і не ставіліся. У 1952 годзе на сцэне Беларускага тэатра імя Янкі Купалы пастаўлена яго палітычная драма „На досвітку” пра пасляваенную Францыю. Сацыяльна-палітычнай скіраванасцю вызначаюцца наватарскія п'есы „Зацюканы апостал” і „Трыбунал”, якія засведчылі значную эвалюцыю ў выяўленчай манеры аўтара. У пошуках новых жанравых і структурна-кампазіцыйных форм Макаёнак прыйшоў ад камедыі-рэпартажу „Таблетку пад язык” да складанай у жанравых адносінах камедыі „Кашмар” (пастаноўка пад назвай „Святая прастата” ў 1976 годзе), якая характарызуецца гуманістычным пафасам. У канцы 1970-х — пачатку 1980-х гадоў на сцэне з'явіліся трагікамедыя „Пагарэльцы” (напісана ў 1966, пастаўлена ў 1981 годзе) і камедыя „Верачка” (аўтарскае вызначэнне: сентыментальны фельетон, пастаўлена ў 1979 г.), якія адкрылі новыя грані драматургічнага таленту Макаёнка. Апошні закончаны твор драматурга — трагікамедыя „Дыхайце эканомна” (апублікавана 1983 г.) — п'еса-прытча, у якой аб'ектам аўтарскага асэнсавання стала найважнейшая агульначалавечая праблема захавання Зямлі ад тэрмаядзернай катастрофы.

Андрэй Макаёнак аўтар кінааповесці „Твой хлеб” (1956), сцэнарыяў фільмаў „Шчасце трэба берагчы” (1958), „Кандрат Крапіва” (1961), „Рагаты бастыён” (1975), тэлефільма „Пасля кірмашу” (1973). Пераклаў п'есы „Дабракі” Леаніда Зорына, „Я, бабуся, Іліко і Іларыён” Надара Думбадзэ, „Чацвёрты” Канстанціна Сіманава і іншых.

Памёр Андрэй Макаёнак 16 лістапада 1982 года. Яго імя мае вуліца ў Мінску, Гродзенская цэнтральная гарадская бібліятэка і Журавіцкая СШ Рагачоўскага раёна, у якой створаны музей драматурга. У Мінску на доме №10 па Вайсковым завулку ўстаноўлена мемарыяльная дошка.

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

# Прыцягальная сіла слова і музыкі

Ранішні званок дачушкі насцярожыў: звычайна мы на сувязі ўвечары.

— Прывітанне, мама. Віншую цябе са святам — Днём Маці. Жадаю табе заўсёды быць у гуморы, не хварэць, больш адпачываць і па меры сіл займацца тым, да чаго найбольш ляжыць душа. Дасылаю табе музычны падарунак ад Дзімы Вайцюшкевіча на словы Генадзя Бураўкіна.

І палілася песня. Асабліва кранальным быў прыпеў, на які мая душа адразу адгукнулася патокам слёз:

Ты мне родная самая
Па душы, па крыві.
Ты жыві, мая Мама,
Доўга-доўга жыві.

Паўтораны запар двойчы пасля кожнага новага куплета, быццам належаў ужо не паэту, а маёй дачушцы, якая таксама клапоціцца пра мяне і жадае мне даўгалецця.

Па маёй просьбе Наталля пераслала відэакліп адзінокай жанчыне (дзеці жывуць далёка, а мужа няма ўжо сем год). Тая ў сваю чаргу „скінула” песню сыну, што жыве ў Мінску.

Атрымаўшы „пасланне”, сын успрыняў „інфармацыю” па-свойму і, адпрасіўшыся з работы, прыляцеў да маці, каб упэўніцца, што з ёю ўсё ў парадку.

Расказваючы сваім дачушкам аб маёй рэакцыі на песню, Наталля распавяла: „Хацела бабулю парадаваць музычным падарункам, а давяла да слёз”.

Але ж ёсць слёзы і ад радасці, калі душа перапаўняецца пачуццямі, якія не месцяцца ў адным сэрцы, — імі трэба дзяліцца з блізкімі па духу людзьмі.

Пачуцці гэтыя насамрэч валодаюць гаючаю сілай, і іх павінна быць як мага больш.

Нізкі паклон аўтару кранальных слоў і табе, Тодар, за цудоўную музыку і выкананне.

**Тамара ЛАЎРАНЧУК**
г. Высокае.

## Трэба, каб пры дарозе былі аўтастаянкі

Ваяводская дарога № 687 вядзе з Юшкавага Груда ў Навасады каля Гайнаўкі цераз Нараўчанскую гміну Гайнаўскага павета. Маставая на пяці яе адрэзках няроўная і ўхабістая. Іх аднак не рамантуюць. На гэтай дарозе даволі вялікі рух легкавых аўтамашын і грузавікоў.

Што дзіўна на вышэйзгаданай шашы няма ні адной хаця б невялікай аўтастаянкі. На ўсёй больш трыццацікіламетровай яе даўжыні няма апроч вузкай дарожнай абочыны дзе затрымацца. А што калі ў самаходзе перастане працаваць рухавік або здарыцца іншая аварыя. Стоячы на вузкай маставой грузавік ды яшчэ з прычэпай становіцца перашкодай для іншых карыстальнікаў. Трэба тармазіць і разглядацца, як абмінуць «завалідарогу» і ці ніхто не едзе з супрацьлеглага накірунку.

Варта дадаць, што раней у Новым Ляўкове была аўтазаправачная станцыя і пры ёй вечарам з'язджалі з дарогі перш-наперш вялікія аўтафуры, шафёры якіх адпачывалі ў кабіне або праводзілі дробны рамонт. Бензастанцыю і пляцоўку пры ёй прадалі, а новы яе ўласнік сарваў асфальтавае палатно, пасеяў траву і загарадзіў пляцоўку.

Падляшскае праўленне ваяводскіх дарог у Беластоку пра аўтастаянкі пры вышэйзгаданай сваёй дарозе павінна паклапаціцца. Але дзе там. Нават пра маставую слаба дбае. Цяпер — недзе ад лета — не ліквідуе нават ухабін у раструшчанай маставой. Відаць ППВД не мае бітумічнай масы. А тут і зіма не за гарамі. Як тады рамантаваць? **(яц)**

## Яны берагуць спадчыну

Рукадзельніцы, перш-наперш вышывальніцы, між іншым, Аляксандра Засім, Вольга Клімовіч, Марыя Казёл, Вера Скепка, Ядвіга Самоцік, Івона Царэвіч, Галена Здануўчык, Люба Барэчка, Лідзія Харкевіч, Эва Дзеніс, Альжбета Кунцэвіч, Галіна Бірыцкая, Марыя Целушэцкая і Галена Харкевіч з Нараўчанскай гміны Гайнаўскага павета захоўваюць бабуліны і матчыны вышываныя ручнікі, макаткі і сурвэты.

Некаторыя вышэйзгаданых жанчын перахоўваюць як сямейныя памяткі калаўроткі, матавілы, снойніцы і ткацкія кросны. Маюць газавыя лямпы, фанары, жалезныя бязмены, прасы „з душой” (уцюгі на вугалькі), мядзяныя самавары з такімі паднасамі і мядзяныя або масянжовыя ступкі з таўкачыкамі. Беражліва захоўваюць яны таксама драўляныя кухонныя крэдэнсы, дзежкі, капанкі, маслабойкі і лыжкі ды гліняныя збаны і верцехі.

**Тэкст і фота Янкі ЦЕЛУШЭЦКАГА**

## Пра равы ў Плянце

Плянта — адна з вёсак Нараўчанскай гміны Гайнаўскага павета, якая складаецца з трох частак: дзве з іх раздзяляе чыгунка з Гайнаўкі ў Семяноўку, трэцяя за лесам і паабапал пявятовай асфальтавай шашы ў напрамку Семяноўкі. У сяле пражывае 155 чалавек.

У сярэдняй частцы вёскі (яна побач чыгункі Чаромха — Семяноўка) цягнуцца прызабытыя доўгія равы. Яны зараслі высокімі кустамі. У равах поўна апаўшага лісця і голля. У каго пад дамамі ёсць склепы на агародніну і фрукты, там прасочваецца вада.

Таму жыхары дамоў, каля якіх ёсць запушчаны роў, патрабуюць, каб яго давялі да парадку. У ім неабходна перш-наперш ссячы густыя кусты ды яго ачысціць ад мулу. Гэтую справу накіроўваем перш-наперш да мясцовага радная і заадно солтыса. Яму і войту трэба было б заняцца добраўпарадкаваннем плянтаўскіх равоў.

**(яц)**

## Адгаданка

Адгаданка Адгаданка

1. дзіця без бацькоў, 2. восеньскі месяц, 3. у ім Рыбы і Шалі, 4. паўднёвы сусед кубінца 5. прамая палка, 6. публічнае выкананне музычных твораў, 7. конская прычоска.

Адгаданыя словы запісаць у вызначаныя дарожкі, пачынаючы ад поля з лічбай. У светлых палях атрымаецца рашэнне — пагаворка.

(ш)

| | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | | | | | | | 2 |
| | | | | | | | |
| | | | 3 | 4 | | | |
| | | | | | | | |
| | | | | 5 | | | |
| | | 6 | | | | | |
| | | 7 | | | | | |

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя рашэнні, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 44 нумара**

Пуд, стараста, баец, праца, Шо, масляк, Енісей, толь, Кіпр, цана, айва, Іліяда, пала, камуніст, Беларусь, шчыт.

Рашэнне: **Душа стамляецца не толькі працай, але і адпачынкам**.

Ніва ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі”:** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Мірослава Лукша, Аляксей Мароз, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk”, Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy” prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH” na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH”), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „GARMOND PRESS”, siedziba redakcji „Niwy”.

**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA”, „KOLPORTER”, „RUCH” — kwartalna 39,00 zł., półroczna 78 zł., roczna 156 zł.
Redakcja „Niwy” — kwartalna 70 zł., półroczna 140 zł., roczna 280 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER” na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 693 70 00 – czynne w godzinach 7[00] – 18[00].

**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje:
Rada Programowa Tygodnika „Niwa”,**

BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład:** 1 000 egz.

## 15.11 — 21.11

**(22.03. — 20.04.)** Калі возьмеш свае справы ў рукі да 17.11., можаш шмат што выйграць, але не паддайся згубным жарсцям. Да 18.11. вылезуць справы, якія табе не спадабаюцца. Не плануй цяпер рамантычных сустрэч. 17-21.11. праблемы з якойсьці старэйшай асобай. Будзь адкрыты на нетыповыя ідэі 16-18.11. Давядзеш нейкую важную справу да канца. Пераканаешся, што немагчыма ўвесь час жыць і дзейнічаць на ўсю катушку

**(21.04. — 21.05.)** На тваёй дарозе стануць новыя сябры, але і новыя праціўнікі. 14-16.11. інакш глянеш на свайго партнёра. 14-18.11. не паводзь сябе лішне развязана. 17-21.11. можа папсавацца табе настрой, будзеш змушаны ад чагось адмовіцца. Будуць табе па галаве хадзіць задумы пра працу і бізнес — 16-18.11.будуць для гэтага нагоды, дзякуючы асобе, якая ў цябе паверыць, паможа, параіць і нават пазычыць грошы на старт. Рэгенеруй сілы.

**(22.05. — 22.06.)** Многа працы, але і шмат нагод — не змарнуй іх. Каханне прыйдзе. 16-18.11. не рабі нічога неабдумана. Не будзь працаголікам, асабліва калі ты з III дэкады. Усё можа здарыцца. Засяродзься на найважнейшым — на рабоце. Некаторыя ранейшыя рашэнні яшчэ можна памяняць. Можаш пачуць крыўдныя словы ад аднаго фарбаванага ліса.

**(23.06. — 23.07.)** 14-18.11. можаш пранікнуць і зрабіць дарэмнымі задумы канкурэнцыі. 17-21.11. паніжэнне настрою; пі гарачы шакалад, масіруйся араматычнымі алеямі. Сур'ёзна слухай парад добрых знаёмых — дзякуючы ім знойдзеш выхад з не адной нялёгкай сітуацыі.

**(24.07. — 23.08.)** Многа неадкладных абавязкаў. 14-16.11. цяжка будзе табе сцішыцца, могуць цябе турбаваць благія прадчуванні і кашмарныя сны. Хаця з іншага боку можаш мець нагоды для весялосці (да 20.11.). Напругі і розніцы ў думках, якія цяжка палагодзіць. Усё ж 14-16.11. будзеш ужо ведаць, што далей рабіць з гэтым. Дбай аб свой імунітэт.

**(24.08. — 23.09.)** Рабі сваё. 14-16.11. перад тваім зрокам не схаваецца ніякі сакрэт. Набяруць тэмпу хатнія справы. Можа, трэба будзе пашукаць новага жылля? 14-18.11. не ляпні чаго, бо можа гэта стаць падставай канфлікту. Не падвядуць старыя сябры. Да грошай менш шчасця, ды бедаваць не будзеш.

**(24.09. — 23.10.)** 14-16.11. карысна ўкладзеш грошы ці пачуцці. 17-21.11. афармляй справы ва ўстановах і разлічвайся з даўніх абавязацельстваў. 15-17.11. старайся не дзейнічаць пад уплывам эмоцый, бо трапіш у кабалу. 17-21.11. твая сувязь можа паддацца спробе — не цягніце кожны ў свой бок. Прафесійныя справы пойдуць уперад. 14-18.11. будзеш мець ахвоту на дарагія пакупкі, але падумай, ці варта і ці мусіш гэта купляць. Еж свежыя і сушаныя фрукты.

**(24.10. — 22.11.)** Мноства энергіі для новых пачынаў. Можаш вырвацца з таксічнай рэляцыі, калі нават здавалася табе, што гэта немагчыма. У добрых парах таксама можна не пазбегнуць крызісу 15-21.11. (лепш у канцы месяца) 15-17.11. звярні ўвагу кіраўніцтва на твае дасягненні. 16-18.11. вісіць у паветры спрэчка з дзецьмі або бацькамі. Расцягвай і выгінай цела.

**(23.11. — 22.12.)** 15-17.11. будзеш цешыцца дробнымі прыемнасцямі. 15-21.11. не рабі радыкальных пачынанняў у сардэчных справах Больш энергіі. Але 14-18.11. хтосьці з блізкіх захоча ад цябе зашмат. Еж кашы і квашаніну. У пары праводзь разам як найбольш часу. А калі ў цябе пары няма, будзь добрай думкі. Цікава бачацца знаёмствы наладжаныя шляхам інтэрнэту.

**(23.12. — 20.01.)** 15-17.11. будзеш панам сітуацыі! Хаця 15-17.11. шыкуецца вялікая афёра ў фірме. Пакажуцца новыя прафесійныя магчымасці. Да 20.11. пераканаешся, што незалежна ад гадоў можна сваю кар'еру перавесці на новыя пуці. Ідэальны момант для карэктуры планаў. 17-21.11. не шкадуй сабе прыемнасцей і не лічы калорый, высыпайся, рэляксуйся, слухай музыку. Са здароўем някепска, толькі не нервуйся, калі, скажам, папсуецца табе камп'ютар.

**(21.01. — 19.02.)** 17.11. выдатны настрой. Адзеліш важныя справы ад драбязы. 15-21.11. не ўкапайся ў раман з неадпаведнай асобай. Вядзі сябе згодна са сваімі перакананнямі. 14-16.11. пашукай сабе новага жылля. 16-18.11. на працы можаш выйсці наперад, надрабіўшы «хвасты». 15-17.11 можаш атрымаць цікавую прапанову на працу ці шанцы на свой бізнес. Венера 15-18.11. можа падкінуць табе грошы, раз, але зможаш зашалець і паправіць сабе настрой. 17-21.11. могуць насіліцца праблемы зваласамі, скурай ці пазногцямі; два разы чытай брашуры аб леках.

**(20.02. — 21.03.)** Пакуль ты не ўлюбёнец Венеры. Калі з кімсьці пазнаёмішся, не плануй яшчэ будучыні. Плануеш шлюб — мо падумай? Чуласці з палавінкай не будзе канца. 16-18.11. настаўляй вушы — можа прыйсці вестка наконт працы 15-17.11., нечакана. Не багацей на чужым горы, бо заплаціш вялікую цану. Трымайся цёпла.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

# Шыпшына

**Нядаўна на старонках «Зоркі» была мова пра шыпшыну, пра вельмі станоўчыя карысці ад яе. Паколькі ў мяне асабістыя дачыненні з гэтай раслінай, тады маю ахвоту таксама дакінуць свае тры грошы на яе тэму.**



Фота Аляксандра Вярбіцкага




Шыпшыну называюць таксама сабачай ружай. Гэта не ад таго, што яна ў сабак у нейкім асаблівым паважанні. Папросту калісь лічылася яна паспяховым лякарствам ад укусаў шалёных сабак, з таго і пайшла такая яе назва.

Аднак шыпшына сама кусаецца; кусаецца яна сваімі вельмі вострымі шыпамі. Пасля збору шыпшынавых ягад у ягадзіцах пальцаў часта астаюцца вяршкі яе калючак, балюча дакучлівыя. Аднак гэта яшчэ не вялікая праблема; іх можна павыцягваць.

Шыпшына кусаецца даволі зачэпіста. Менавіта, калі нейкі яе шып зачэпіць вопратку, тады ў бой уступаюць ягоныя таварышы. Справа ў тым, што голле шыпшыны сплеценае з сабою і спроба вызваліцца ад аднаго шыпа цягне за сабою ўсё спалучанае тымі ж шыпамі голле на ўсю постаць збіральніка шыпшынавых ягад. Хапае яна чалавека як расічка муху. Затым для збору тых ягад трэба даволі салідна апрануцца.

Ягады шыпшыны даволі салідна прычэплены сваімі хвосцікамі да яе ветак. І трэба прымяніць крышку сілы дзеля іх адарвання. І тады зварушваецца цэлы куст, які гэтымі веткамі і накідваецца на збіральніка. Бо ж збіральнік той не адпіхае ягад, толькі цягне іх да сябе, а за імі і ўсё шыпшынавае ўзбраенне. Тады шыпы ўчэпліваюцца ў рукавы, у плечы вопраткі, у шапку, часта здзіраючы яе з галавы. А калі ж вызваліцца з ейнай учэпістасці, то тыя веткі заспружыняцца назад, намагаючыся зноў укалоць збіральніка. І трэба ад іх вельмі абачліва вызваляцца, каб такі контрудар не трапіў у твар; асабліва ж трэба берагчы вочы. Да таго ўсяго шыпшына расце ў свайго роду сімбіёзе з іншымі збльтанымі з сабою раслінамі, між іншым ажынамі, якія хапаюць збіральніка за ногі і з гэтых моцных капканаў таксама трэба вызваляцца даволі працавіта і абачліва, каб не нырнуць носам у чарговыя калючкі.

Такім чынам на збор шыпшынавых ягад трэба адпраўляцца як на свайго роду вайну, у адпаведным рыштунку. І таксама трэба трапіць на пародзістыя ўраджай. Бо пасля збору трэба тыя ягады перабраць, значыць ачысціць іх ад зярнят. І найлепш, калі тыя ягады пародзістыя, вялікія, тады з іх лягчэй выбіраць зярняты. Ачыстка з зярнят гэта даволі мазолістая праца, бо ягаду трэба разрэзаць, а тады ейная сырасць прыстае да рук, і то вельмі ўчэпіста. З часам рукі становяцца штораз больш ліпкімі і да іх чапляецца ўсё. Каб вярнуць рукам іх селектыўныя якасці, прыходзіцца часта іх мыць, а тое шыпшынавае лепішча не менш учэпливае чым раней калючкі.

Ачысціўшы ягады трэба іх прамыць, да таго ж у некалькіх водах, пакуль вада ад таго прамывання не стане станавіцца чыстай. І ўжо шыпшынавая сыравіна быццам гатовая для далейшай апрацоўкі. І тут зноў шыпшына ставіць чарговыя праблемы...

Менавіта шыпшына лічыцца вітамінаў бомбай, асабліва багатай вітамінам С; у ёй вітаміну С нашмат больш чым у лімоне. Толькі той вітамін у час варкі распадаецца. Ну, такая варка пазбаўляе атрыманае варэнне самых каштоўных якасцей, якія мела сыравіна. Значыць, шыпшыну нельга доўга варыць; заварыць толькі і закансерваваць.

Сёлета я ўпершыню змагаюся са зборам шыпшыны. І на свой лад мяркую як захаваць ейныя самыя карысныя багацці. Ну, заварка і пасля пастэрызацыя банак у духоўцы цягам пятнаццаці хвілін у тэмпературы 120 градусаў. Колькі пасля гэтай апрацоўкі астаецца ў варэнні вітаміну С, не ведаю; мяркую, што нешта ўдаецца захаваць...

Некалькі банак запоўніў я сырою змолатай мякаццю, змешанай з такой жа колькасцю цукру; гэтак, як кансервуюцца сырыя суніцы. Для ўсяго паліў я змесціва банак г.зв. французскім каньяком; два міліметры таўшчыні. Што з гэтага атрымаецца пасля нейкага часу — пабачу, але ж паспрабаваць трэба было.

І чарговая справа — сушка. Тут таксама трэба ўмела спраўляцца з сыравінай. Карыстаўся я кніжнымі падказкамі як сушыць шыпшыну, каб і тут тэмпературай не знішчыць каштоўнага вітаміну С. Дваццаць мінут у духоўцы ў тэмпературы 90 градусаў вытрымаць, пасля столькі ж у сямідзесяці градусах, а пасля ў фруктава-грыбную электрасушылку аж да поўнай сухасці.

З кнігі «Дары нашых лясоў» мінскага выдавецтва «Полымя» з 1984 года: «Шыпшына — сапраўдны вітамінны камбінат. Па насычанасці караціну (правітаміну А) шыпшына на адным з першых месцаў сярод раслін. У яе пладах рыбафлавін (вітамін В2), філахінон (вітамін К), біяфлаваноідаў у дзесяць разоў больш чым у цытрусавых — апельсінах і лімонах. У семачках шыпшыны збіраецца да 10% масла, у якім многа вітаміну Е. У нашай прыродзе няма больш дабротнага вітаміннага прадукту чым шыпшына. Вітамінам С насычаны не толькі плады, але і лісце ды пялёсткі. У пладах змяшчаюцца ў вялікай колькасці цукры, дубільныя і пектынавыя рэчывы, важныя для жыцця элементы: жалеза, калій, медзь, кальцый, магній, марганец, фосфар, арганічныя кіслоты. Дзякуючы гэтым разнароднасці і багаццю біялагічна актыўных рэчываў і элементаў шыпшына валодае гаючымі ўласцівасцямі рознабаковага ўздзеяння на наш арганізм. «Багацейшая скарбонка вітамінаў», «лабараторыя здароўя», «прыродны канцэнтрат вітамінаў» — такімі эпітэтамі называюць шыпшыну за яе вялікае значэнне для чалавечага здароўя».

З Вікіпедыі: «Owoce są niezwykle bogatym źródłem witaminy C — zawierają jej dziesięciokrotnie więcej niż porzeczka czarna. Już 1-3 jej owoce w zupełności wystarczą do pokrycia dziennego zapotrzebowania człowieka na tę witaminę. Naturalna witamina zawarta w owocach jest przy tym trzykrotnie bardziej skuteczna od witaminy syntetycznej w tabletkach». Да таго ж: «Плады шыпшыны зніжаюць утрыманне халестэрыну ў крыві, запавольваюць адклад атэрасклератычных бляшак у крывяносных сасудах. Вітаміны і карацін актывізуюць энзімную сістэму, узмацняюць рэгенерацыю тканак, сінтэз гармонаў і аказваюць дабратворны ўплыў на вугляводны абмен і пранікальнасць сасудаў. Змест вітаміну Р спрыяе памяншэнню далікатнасці капіляраў, дапамагае выкарыстанню аскарбінавай кіслаты арганізмам. Вітамін К удзельнічае ў стварэнні пратрамбіну і ўплывае на нармальную згусальнасць крыві. Іншыя вітаміны маюць важныя фізіялагічныя функцыі. Плады шыпшыны дзейнічаюць спрыяльна пры авітамінозе і як умацавальны сродак у рэканвалесцэнтны перыяд. У лекавых формах іх прымаюць з мэтай прафілактыкі цынгі і гіпавітамінозу С і Р, пры гемарагічных дыятэзах, розных крывацёках, у тым ліку выкліканых прамянёвай хваробай, пры хваробах печані (хранічны гепатыт, халецыстыт, халангіт), пры нефрапатыі цяжарных (хваробы нырак і мачавога пузыра), ранах, пераломах касцей, якія вяла загойваецца (дыстрафіях, пры ўзмацненні фізічных нагрузак, разумовым напружанні), у перыяд цяжарнасці і лактацыі, станоўчы ўплыў вітаміну С пры атэрасклерозе. Як агульнаўмацавальны сродак (пры вострых і хранічных інфекцыях, дыстрафіі, фізічных нагрузках і г.д.). Плады шыпшыны сабачай ужываюць у народнай медыцыне. Чай з пладоў выкарыстоўваюць пры прастудных захворваннях. Насенне — для лячэння камянёў у мочавыдзяляльных шляхах, пры рэўматызме і падагры».

Збіраць шыпшыну складана, небяспечна, а апрацоўваць яшчэ больш складана. Але ж едучы поездам паміж Беластокам і Страблям глядзіш на ўчырванелыя кусты на грабянях абнімаючых лінію зямных насыпаў і рвешся на тую чырвань, як іспанскі бык. І хаця дома, знеахвоціўшыся марудным яе апрацоўкай, разводзіш рукі з «рашучым» рашэннем «больш ніколі», усё ж такі цягне гэты выклік, быццам ваўка ў лес. Небяспека таксама з'яўляецца адвечным рухавіком змагання. Часта ж людзі змагаюцца толькі дзеля змагання, напрыклад, у спорце. І такім своеасаблівым спортам з'яўляецца змаганне з шыпшынавымі кіпцюрамі.

Тут згадка пра кіпцюры і спорт невыпадковая. Бо не толькі людзі змагаюцца ў розных рынгах у кулачных ці іншых баях. Змагаюцца і іншыя прыродныя стварэнні. Ружы і расічкі з ліку раслін. А пра звярыну то і, здаецца, лішне згадваць. Але нешта варта, пра пеўняў...

Вось нядаўна пайшла па свеце вестка, што на Філіпінах певень забіў паліцыянта. Філіпіны калісь былі іспанскай калоніяй і некаторыя хобі латыносаў там прысутныя, між іншым, баі пеўняў. Зараз яны там юрыдычна забаронены, аднак праводзяцца ў падпольным рэжыме. І вось тамашняя паліцыя праследуе такія мерапрыемствы. Так здарылася і сёлета. Паліцыянты ўварваліся на такое нелегальнае спаборніцтва пеўняў і адзін певень накінуўся на аднаго з ахоўнікаў законнасці. І параніў яго сваімі кіпцюрамі, дадаткова ўзброенымі вострым лязом. Трапіў тым лязом у крываносную артэрыю, таварышы параненага не змаглі стрымаць крыві і нешчаслівец развітаўся з гэтым светам.

Яшчэ не чутна было пра такое раненне чалавека ад шыпшыны, ад дзікай ружы, але ж яна дзікая, у яе таксама асаблівыя кіпцюры і ўсяго можна спадзявацца. З шыпшынай трэба абыходзіцца вельмі абачліва...



Philippine police Lt. Christian Bolok was killed by a rooster armed with a metal blade while attempting to break up an illegal cockfight.

**Аляксандр ВЯРБІЦКІ**

ISSN 0546-1960